Адна зямля

Мядзел

Астравец

Смаргонь

Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

11 красавіка 2014 года №15 (989)



**Два Церабуны, два творцы, два шляхі, адно дзяцінства**

Падарунак чытачам: 7 тэзісаў з жыцця ад Уладзіміра ў дзень нараджэння

старонка 21





**Адкрылі справу на былога старшыню Вілейскага райвыканкама**

Следчы камітэт: быў старшыня Вілейскага райвыканкама злоўжываў уладай пры будаўніцтве свайго дома.

старонка 2

**Настаўнік гісторыі сплёў кальчугу**

с. 5

**Ці выгадна вырошчваць памідоры?**

с. 3

**Івянец. Мястэчка, дзе жывуць ганчары, адкрытыя людзі і сумленныя прадавачкі**

с. 20


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Лес садзяць добраахвотнікі

**АСТРАВЕЦ.** 5 красавіка ў Палушанскім лясніцтве на Астравеччыне добраахвотнікі высадзілі лес. Акцыю зладзіў Астравецкі лясгас у рамках тыдня лесу. Перад пасадкай сасонак удзельнікі акцыі, стаць якімі мог кожны ахвотны, выслухалі падрабязны інструктаж, які правёў дырэктар Астравецкага лясгаса **Рыгор Доўгі**. Сёлета пасадка лесу была прымеркаваная да 70-годдзя вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

### Змяніліся старшыні сельсаветаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пасаду старшыні сельсавета ў Палачанах заняла **Ганна Фурс**, у Алёнавічах – **Уладзімір Лазар**. Ганна Фурс раней займала пасаду спецыяліста па кадрах акцыянернага таварыства “Дубрава-2013”. Уладзімір Лазар – пасаду галоўнага інжынера на прадпрыемстве “Яхімоўшчына-агра”, пaведаміла галоўны спецыяліст раённага Савета дэпутатаў **Людміла Скляр**.

### Высадзяць алею

**МАЛАДЗЕЧНА.** У суботу, 12 красавіка, у парку імя Перамогі на абласным суботніку пачнуць высаджваць дубовую алею да 75-годдзя міліцыі Мінскай вобласці. Месца для алеі абралі непадалёк ад пляцоўкі пад пляжны валейбол. Пра гэта распавёў намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**.

### Выбралі лепшую ў вобласці настаўніцу

**АШМЯНЫ.** Настаўніца фізікі СШ №1 горада Ашмяны **Марына Дудойць** перамагла ў абласным этапе конкурсу “Настаўнік года” ў намінацыі “Фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка”. Марына Дудойць прадставіць Гродзеншчыну на рэспубліканскім этапе конкурсу, які адбудзецца сёлета ў верасні.

### Прадавачка з Івянца прысабечыла тавар

**ВАЛОЖЫН.** 22-гадовая жыхарка Івянца, якая працавала ў 2013 годзе прадаўцом у краме вёскі Капусціна і буфетчыцай у піцэрыі “Фламінга” ў Валожыне, растраціла таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў больш чым на 7,5 мільёна рублёў. Пра гэта “Рэгіянальнай газеце” паведаміў намеснік начальніка Валожынскага РАУС **Віталь Мінкевіч**. Супраць прадавачкі заведзеная крымінальная справа.

**Аддзел інфармацыі.**



# Застрэліў нападніка ў бойцы з-за жанчыны



Калаж Насткасі РОЎДЫ.

На хутары Алянец адбылося забойства. Ненаўмысна застрэлілі 28-гадовага маладзечанца. Прычына – у жанчыне.

**СМАРГОНЬ. Дэтэктыў з трагічнай канцоўкай разыграўся на хутары Алянец на Смаргоншчыне ў сакавіку.**

Пра гэта “Рэгіянальнай газеце” расказаў начальнік Смаргонскага райаддзела Следчага камітэта **Андрэй Рэзін**.

Адным з сакавіцкіх вечароў 54-гадовы жыхар Смаргонскага раёна запрасіў знаёмую жанчыну да сябе ў госці на хутар Алянец. Ідылію веснавога вечара перарваў гук пад’язджаючай машыны. Як потым высветлілася, у машыне знаходзіліся чацвёра няпрошаных гасцей. Мужчына прыслухаўся.

Раптам у дзверы пагрукалі.

**“Адчыняй дзверы, ягоднік! Вярні нам нашу жанчыну!” – пачуўся голас з-за дзвярэй.**

Жыхар хутара адказаў, што нікога, акрамя яго, у доме няма. І калі звонку не перастануць выломліваць дзверы, ён выкліча міліцыю. Але мабільная сувязь на хутары дала збой, мабільны тэлефон гаспадара не змог злавіць сетку. Тады мужчына ўзяў паляўнічую стрэльбу, што была ў доме, і зрабіў папераджальны стрэл у паветра. Выпрашыўшы, што начныя візіцёры спалохаліся і рэціраваліся, гаспадар выйшаў на двор. Там ён зрабіў яшчэ адзін стрэл наўпрост у цемру і вярнуўся ў дом.

Тут яго чакалі двое з няпрошаных гасцей. Паміж мужчынамі завязалася бойка, у якой 54-гадовы гаспадар атрымаў траўму твару і пераломам рабрын. Перамагаючы боль, ён знайшоў у сабе сілы і скарыстаўся ружжом трэці раз. Мужчына выстраліў і трапіў аднаму з нападаючых у сцягно. І, перапужаўшыся сам, адразу пачаў аказваць першую дапамогу пацярпеламу.

Пасля гэтага сам выклікаў “хуткую дапамогу” і міліцыю (тэлефон ужо працаваў). На наступны дзень пацярпелы, ім аказаўся 28-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна, памёр у бальніцы. Яго раненне аказалася вельмі сур’ёзным і цяжкім.

Па факце забойства пры перавышэнні межаў самаабароны заведзеная крымінальная справа. У цяперашні час высвятляюцца матывы і абставіны дадзенай справы. Кропку ў гэтым паставіць толькі суд.

Па папярэдняй інфармацыі, нападаючыя шукалі на хутары жанчыну, якая была павінна ім нейкія дакументы.

– Мараль гэтай гісторыі ў тым, – падвёў рысу ў размове Андрэй Рэзін, – што не трэба гуляць у бандытаў і раз’язджаць па незнаёмых хутарах, нават калі вы гэта робіце з-за жанчыны.

**Наталля ТУР.**

● КАРУПЦЫЯ

# Адкрылі справу на былога старшыню райвыканкама

## Следчы камітэт: былы старшыня Вілейскага райвыканкама злоўжываў уладай пры будаўніцтве свайго дома

**ВІЛЕЙКА. Расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да былога старшыні Вілейскага райвыканкама, паведаміла нашаму выданню афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.**

Крымінальная справа ўзбуджаная Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Беларусь па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Беларусі (злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненае службовай асобай, якая займае адказнае становішча).

Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы паслужылі матэрыялы праверкі па факце злоўжывання службовай асобай сваімі службовымі паўнамоцтвамі ў асабістых мэтах, якія пацягнулі прычыненне істотнай шкоды дзяржаўным і грамадскім інтарэсам.

**Згодна з матэрыяламі праверкі, прадстаўнік улады выкарыстаў дадзеныя па службе паўнамоцтвы для будаўніцтва дома, які належыць яму.**



Фота govorim.by.

**Прадстаўнік улады выкарыстаў службовыя паўнамоцтвы для будаўніцтва дома.**

Падазраваны даваў незаконныя ўказанні кіраўнікам мясцовых арганізацый аб перавозцы будматэрыялаў да дома, які будуецца, выкананні там будаўніча-мантажных работ.

У тым ліку з прыцягненнем работнікаў у іх працоўны час без заключэння з імі адпаведных дамоў аб аплаце аказаных паслуг і выкананых работ.

Факты злоўжывання ўладай выяўленыя ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў.

У межах крымінальнай справы прызначаная фінансава-эканамічная экспертыза для ўстанаўлення памеру нанесенай матэрыяльнай шкоды.

Цяпер аддзел па расследаванні злачынстваў супраць інтарэсаў службы ўпраўлення Следчага камітэта ажыццяўляе збор і праверку доказаў, неабходных для высвятлення абставін па крымінальнай справе.

**Аддзел інфармацыі.**

● РЭЛІГІЯ

# Богаслужэнне па-беларуску

**ВІЛЕЙКА. Упершыню богаслужэнне на беларускай мове адбылося ў вёсцы Любань.**

Па словах настаяцеля прыхода **айца Ігара**, ініцыятыва выкарыстання роднай мовы належыць прыхаджанам, сярод якіх шмат інтэлігенцыі, людзей сталага веку, якія з любоўю ставяцца да беларускай мовы і культуры.

Адметна, што ўдзел у першым у Любані богаслужэнні на беларускай мове прыняло Праваслаўнае брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў у горадзе Мінску, якое дзейнічае пры сталічным Свята-Петрапаўлаўскім саборы. У прыватнасці, у выкананні брацкага хору прагучалі ўсе песнапенні святочнай Літургіі.

Жыхары Любані прынялі актыўны ўдзел у абмеркаванні перспектыў выкарыстання роднай мове ў храме. У прыватнасці, выказваліся думкі адносна важнасці рэгулярнага правядзення богаслужэння па-беларуску ў мясцовым храме.

**Кастусь АНТАНОВІЧ, рэдактар аддзела газеты "Культура".**

● МАДЭЛЯВАННЕ

# Мадэлі ракет і ледаколы стварылі школьнікі

**ВІЛЕЙКА. У цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі з 31 сакавіка па 4 красавіка прайшоў раённы конкурс стэндавага мадэлявання сярод вучняў устаноў адукацыі.**

На выставе прадставілі 24 мадэлі тэхнікі. Сярод іх як копіі, так і зробленыя па ўласных чарцяжах вучняў, паведаміў метадыст установы **Анатоль Прыц**.

Дзеці зрабілі мадэлі ваенных і пасажырскіх караблёў, парусnumнікаў, ледакола, прагулачных катэраў, самалётаў, аўтамабіляў, іншае.

У намінацыі "Мадэлі ваеннай тэхнікі, сабраныя з набораў прамысловай вытворчасці" перамог **Уладзіслаў Шарафановіч** з Чурлёнскага сада-школы. Ён прадставіў мадэль "Браняносец "Пацёмкін".

Мадэль ледакола "Арктыка" прынесла перамогу **Іллі Ролічу** з гэтай жа установы. Ён вызначыўся ў намінацыі "Мадэлі грамадзянскай тэхнікі, сабраныя з набораў прамысловай вытворчасці".

У трэцяй намінацыі "Мадэлі ўласнай распрацоўкі і вырабу" перамог **Ілля Варановіч** з Нарацкай сярэдняй школы. Адзначаны ён за мадэль зенітнай ракеты "Patriot".

**Аддзел інфармацыі.**

● КУЛЬТУРА

# Бібліятэкары стварылі лепшыя буктрэйлеры

**ВІЛЕЙКА. Бібліятэкары з Вілейшчыны вызначыліся ў абласным конкурсе на лепшы праект па папулярызацыі беларускай кнігі сродкамі сучасных інфармацыйных тэхналогій, які аб'явіла ўпраўленне культуры Мінаблвыканкама.**

На конкурс прадставілі 45 праектаў.

Першае месца ў намінацыі "Лепшы праект па папулярызацыі беларускай мастацкай літаратуры" заняла бібліятэкарка Ізбіноўскай сельскай бібліятэкі **Іна Лазар**. Яна стварыла буктрэйлер па кнізе Уладзіміра Караткевіча "Лятучы галандзец".

Другое месца ў гэтай намінацыі заняла бібліятэкарка аддзела бібліятэчнага маркетынгу раённай цэнтральнай бібліятэкі **Аксана Дубяга**. Для ўдзелу яны выбрала творчасць мясцовага аўтара Івана Лашуткі і стварыла буктрэйлер "Край верасовы".

– Мне гэты паэт цікавы як асоба, і захацелася паказаць у конкурсе творчасць нашага аўтара, – тлумачыць Аксана Дубяга. – Да таго ж летась адзначалася 80-годдзе з дня яго нараджэння.

У відэарадзе можна пабачыць знакавыя мясціны: школа, дзе працаваў творца, памятны знак Івану Лашутку, іншыя. А да іх далучылася песня на верш вілейскага паэта "Край мой верасовы" ў выкананні Сяргея Герасімава, музыку да якой напісаў Аляксандр Высоцкі.

Гэты буктрэйлер ужо выкарыстоўвалі на розных мерапрыемствах, якія праводзіліся ў памяць Івана Лашуткі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".**
**Буктрэйлер.** Кароткі (на 2-3 хвіліны) відэаролік, які расказвае пра кнігу. Мэта такіх ролікаў – прыцягненне ўвагі да твору пры дапамозе візуальных сродкаў.

# Конкурс у 20 раз: дзве новыя намінацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У дзіцячай школе мастацтваў 22 красавіка ў вялікай зале а 10-й гадзіне раніцы пачнецца адкрыты рэгіянальны конкурс ансамбляў "Веснавы прамяньчык".**

Ён пройдзе ўжо ў 20-ы раз. І сёлета ў трох намінацыях, распавёў дырэктар школы мастацтваў **Уладзімір Яцыновіч**.

Адна з іх традыцыйная, дзе будуць удзельнічаць вакальныя ансамблі.

Яшчэ дзве новыя: адна сярод электроннай музыкі, а другая – мультымедыйныя праекты.

Праводзяць конкурс сярод вучняў школ мастацтваў.

Прыедуць і з Мінска, і з Гомеля, і з Магілёва. Будуць і ўдзельнікі рэгіянальнага метадычнага аб'яднання школ мастацтваў з Маладзечна, Вілейкі, Валожына і Мядзела.

**Аддзел інфармацыі.**

# Запрацуе выстава Людмілы Валковіч-Борыс

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрыццё выставы "Саломкі залатой зачараванне" мастачкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Людмілы Валковіч-Борыс адбудзецца 11 красавіка.**

Месца правядзення – фае дзіцячай мастацкай школы, якая знаходзіцца па адрасе: вуліца Я. Драздовіча, 5.

Пачатак а 17-й гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**



Віляйчанка Ірына вырошчвае памідоры і лічыць, што гэта нашмат выгадней, чым набываць іх у краме.

ГАСПАДАРУ

# Ці выгадна вырошчваць памідоры?

**"Выгадна", – ні хвіліну не вагаючыся, адказвае віляйчанка Ірына.**

Што ж, давайце выслухаем яе высновы і паспрабуем падлічыць расходы ў розных выпадках.

### Насенне

У нашай суразмоўцы яно пераважна сваё. Калі ж трэба набываць, то пакецік каштуе ад трох тысяч рублёў. У кожным – па 50 штук, а гібрыдных, з пазнакай F1, можа быць і па 10-20 штук.

### Цяпліца

Калі жадаеце мець раннія памідоры, то без цяпліцы не абысціся. Нашай суразмоўцы цяпліцу зрабіў муж з пластыкавых бутэлек, год шэсць вытрымлівае. Так што тут расходаў ніякіх.

Але камусьці трэба купляць плёнку на цяпліцу – пяць метраў плёнкі раз на пару гадоў. Каштуе яна тысяч 10-11 за метр.

### Расада

У нашым выпадку на яе траціцца не даводзіцца: гаспадыня вырошчвае расаду сама. Інакш трэба ісці на базар. Летась у Вілейцы расада таматаў адразу каштавала каля трох тысяч рублёў, а ў канцы сезона – 700 рублёў.

Каб засадзіць цяпліцу пяць на чатыры метры, у гаспадыні ідзе 100 каліў. Возьмем найбольш масавую леташнюю цану за каліва – 2 тысячы. Тады таму, хто не паклапаціўся пра сваю расаду, давядзецца выкласці ў сярэднім тысяч па 200.

### Паліў

Памідоры любяць, калі іх палімаюць рэдка, але шчодра. У нашай гаспадыні вада на гэтыя мэты ідзе з калодзежа. А калі б плаціць, то прыкінула, што за яе давялося б прыкладна тысяч 30 аддаць за сезон.

### Догляд

У перыяд цвіцення нашы гаспадары льюць пад каліва растворы ёду і борнай кіслаты, ад фітафторы апырскваюць настоем часнаку. Падкормліваюць попелам з лазні. Так што, тут іх выдаткі сімвалічныя.

А наконт хіміі... "Лепш без яе, хіміі і на базары хапае", – усміхаецца Ірына.

### Вынікі

З сярэдзіны чэрвеня наша віляйчанка можа збіраць раннія памідоры. І так да восені. З куста можа атрымаць каля шасці кілаграмаў памідораў. А каторы, у цяні, і тры можа даць. Прыкінула, што кілаграм 400 памідораў з такой цяпліцы можа займець.

Летась, згодна з дадзенымі "Рэгіянальнай газеты", на базары ў Маладзечне кілаграм памідораў ў сярэдзіне чэрвеня каштаваў 15 тысяч рублёў, у канцы жніўня цана зніжалася да 5500. Палічым хаця б па сярэдняй цане – каля дзесяці тысяч. То калі б прадавала памідоры, на гэтым кавалку зямлі наша гаспадыня магла б зарабіць каля чатырох мільёнаў рублёў. Расходаў яе амаль не было – усё сваё.

Цяпер палічым выпадак, калі б давялося за ўсё плаціць: расаду, плёнку, ваду...

То расходаў набяжыць больш за 250 тысяч.

Так, мы не ўлічылі сваю працу – бо яе тут хапае. Але хто калі ў нас яе браў пад увагу?! Тым больш, што самы галоўны аргумент на карысць вырошчвання сваіх памідораў, не нейкая выгада:

– Свой памідор, ён у тысячу разоў лепшы. Смачны, салодкі, без ніякай хіміі, – даводзіць Ірына. – А прывазны... Ты ж не ведаеш, як яго расцілі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# "Гэта ж здаровы прадукт!"

**МЯДЗЕЛ. Жыхарцы вёскі Сваткі на Мядзельшчыне Ірыне Калбун 70 год. Узрост ужо паважны ды і здароўе падводзіць, але агародам займацца яна не кідае.**

– Таму што люблю гэту справу, люблю працаваць на зямлі, – кажа яна. – Як жа інакш? У дзяцінстве бацькам дапамагала. Як замуж выйшла, у сваім агародзе стала працаваць. І нічога страшнага, што гады ідуць. Ды і дачка з зяцем дапамагаюць.

Вырошчвае Ірына Уладзіміраўна памідоры, перцы, агуркі, цыбулю, гарбузы, кабачкі, часнок, капусту, буракі... А яшчэ радуюць вока кветкі, розныя ягады пасаджаныя: маліна, каліна, суніцы, ажына, буякі ды іншыя.

Ладны ўчастак ля хаты мае, ёсць дзе размахнуцца. Толькі жаданне каб было. А яно не знікае.

– Хачу, каб усё сваё было. Гэта ж здаровы прадукт, без аніякай хіміі. Летам свежае можаш есці, зімой – кансерваванае, – дзеліцца яна.

Стараецца жанчына і насенне новае са сталіцы выпісаць. Ёсць і свае дасягненні ў агародніцтве. Летась такі вялізны гарбуз вырас, што два мужыкі ледзьве ўнеслі ў хату.

– Хоць на выставу яго адпраўляй, – усміхаецца Ірына Калбун.

І цяпер яна рыхтуецца да сезона: вырошчвае расаду памідораў, перцу. Каб зноўку быць са сваім ураджаем.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

| Курсы валют НБ РБ | 3.04 руб. | 10.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9900.00 | 9 920,00 |
| Еўра | 13 660,00 | 13 680,00 |
| Злоты | 3 269,16 | 3 283,74 |
| Літ | 3 954,38 | 3 962,53 |
| Расійскі рубель | 281,00 | 277,50 |
| Грыўня | 868,42 | 835,02 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9870/9920 | 9900/9940 |
| Еўра | 13620/13710 | 13670/13750 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 2.04 | 9.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 110900 | 110900 |
| Сасіскі, 1 кг | 48900 | 58650 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 21900 | 26800 |
| Ялавічына, (выразка), 1 кг | 72000 | 76000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 28300 | 29500 |
| Селядзец, 1 кг | 33000 | 32500 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 94000 | 102000 |
| Рыс, 0,9 кг | 10800 | 12000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 13700 | 8500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 13000 | 13000 |
| Алей "Кум" | 14000 | 14500 |
| Маянэз, 200 г | 5000 | 5300 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7500 | 6700 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 28000 | 28000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16000 | 9000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | 9000 |
| Капуста, 1 кг | 11000 | 11000 |
| Морква, 1 кг | 7000 | 6000 |
| Буракі, 1 кг | 6000 | 6000 |
| Лімоны, 1 кг | 21000 | 20000 |
| Апельсіны, 1 кг | 14000 | 14000 |
| Мандарыны, 1 кг | 17500 | 16500 |
| Памідоры, 1 кг | 27000 | 23000 |
| Агуркі, 1 кг | 25000 | 25000 |
| Перац, 1 кг | 39000 | 35000 |
| Вінаград, 1 кг | 38000 | 45000 |
| Бананы, 1 кг | 19500 | 18500 |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | 8500 |
| Грушы, 1 кг (Канферэнцыя) | 15000 | 16000 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13500 | 15000 |
| Масла, 1 кг | 80000 | 80000 |
| Тварог, 1 кг | 42000 | 45000 |
| Бульба, вядро 5 л | 20000 | 25000 |
| Сала, 1 кг | 55000 | 70000 |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | 50000 |

# Жытло гарыць з-за выпальвання травы

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 5 красавіка, гарэлі дом і пабудовы ў вёсцы Варонічы. Паведамілі пра гэта ў пяць гадзін вечара.**

– Па прыбыцці на месца здарэння выратавальнікі ўбачылі, што адкрытым полымем гарaць дом і хлявы. Людзей усярэдзіне не было, – паведаміў старшы інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук**.

У выніку згарэлі пяць хлявоў. Таксама выгараў знутры драўляны дом, знішчаны прыбудаваны да яго хлеў.

Як аказалася, гаспадары прыбіраліся на прысядзібным участку і вырашылі спаліць смецце. У выніку загарэлася сухая трава побач і агонь перакінуўся на пабудовы.

**МЯДЗЕЛ.** На наступны дзень з-за выпальвання травы сем пабудоў згарэлі ў маленькай вёсцы Халмоўка на Мядзельшчыне. Пасля 14 гадзін адтуль паведамілі, што ля вёскі гарыць трава.

З-за моцнага ветру агонь распаўсюджваўся вельмі хутка і неўзабаве перакінуўся на будынкі.




Вынікі пажару ў вёсцы Халмоўка на Мядзельшчыне.

Па трывозе абвясцілі збор асабовага саставу Мядзельскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях, на тушэнне пажару прыехалі выратавальнікі з Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў. Усяго ў Халмоўку накіраваліся 15 адзінак тэхнікі.

У выніку агнём знішчаны жылы дом, лецішча, дзве лазні і тры хлявы. Ад далейшага распаўсюджвання агню ўдалося выратаваць чатыры дамы, паведаміў інжынер Дзяржпажнагляду **Дзяніс Малько**.

Мяркуецца, што пажар адбыўся з-за выпальвання сухой травы. Вінаватыя ўстанаўліваюцца.

За выхадныя на Мядзельшчыне з-за выпальвання травы адбыліся чатыры пажары.

**Аддзел інфармацыі.**

● **БРАКАНЬЕРСТВА**

# Ад 1 красавіка забараняецца лавіць рыбу

**МАЛАДЗЕЧНА. Забараняецца лавіць рыбу ад 1 красавіка да 30 мая. Выключэнне – аматарскае рыбалоўства з вудай.**

Нераст – адно з найбольш важных звёнаў у жыццёвым цыкле рыб. Ён суправаджаецца значнымі зменамі ў іх паводзінах.

Звычайна палахлівыя і асцярожныя, яны ў перыяд нерасту становяцца менш рухомымі і безабароннымі перад чалавекам.

Браканьерская лоўля ў гэты час прыводзіць да падзення з вадаёмаў дзясяткаў тысяч ікрынак. Ніякія затраты на штучнае зарыбленне не кампенсуюць такія страты.

З улікам таго, што пераважная большасць рыб, што жывуць у вадаёмах Беларусі, нерастуе вясной, ахоўваць іх у гэты перыяд вельмі важна.

### За ліня парушальнік заплаціць 900 тысяч

У адпаведнасці з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, лоўля усіх відаў рыбы забаронеая ад 1 красавіка да 30 мая. Выключэнне – аматарскае рыбалоўства ў светлы час сутак з берага адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, які аснашчаны штучнай прынадай, з адным адзінарным або падвойным ці трайным кручком памерам не больш за №10, па міжнароднай класіфікацыі №1.

За кожную незаконна здабытую рыбіну парушальнікі абавязаныя будуць пакрыць прычыненую прыродзе шкоду, якая ў час забароны налічваецца ў трохразовым памеры. Напрыклад, шчупак або лешч абыдуцца браканьерам ў 450 тысяч рублёў, а лінь або язь – у 900 тысяч.

Калі памер шкоды перавысіць 40 базавых велічынь, то парушальнікі могуць быць аштрафаваныя на суму ад 10 да 50 базавых велічынь або прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці.

У дні вясновай забароны не дазваляецца выкарыстоўваць маламерныя судны.

### Браканьерства падчас нерасту

Нягледзячы на забарону, людзі кожны год правілы парушаюць. Летась падчас 1700 рэйдаў, праведзеных інспекцыя вясной, выявілі каля 1300 такіх выпадкаў. І гэта прытым, што летась у сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я лёд на вадаёмах стаяў да сярэдзіны красавіка.

**Сёлета за сакавік на рэках і азёрах Беларусі браканьеры незаконна здабылі каля тоны рыбы, у тым ліку 340 асобін шчупака, нераст якога ўжо пачаўся.**

### Пракантралююць ДАІ, МУС і Мінпрыроды

Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету ад сакавіка па май правядзе шэраг дадатковых кантрольных мерапрыемстваў, накіраваных на спыненне парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства падчас веснавога нерасту.

Сумесныя рэйды з супрацоўнікамі МУС, Мінпрыроды, арандатарамі рыбалоўных угоддзяў, а таксама грамадскімі інспектарамі пройдуць паўсюдна. Інспектары ДАІ будуць правяраць машыны. Разам з падатковымі органамі плануецца адпрацаваць месцы незаконнага гандлю сеткаматэрыяламі, свежай азёрна-рачной рыбай.

На прыгранічных тэрыторыях і трансгранічных водных аб'ектах кантроль будзе ажыццяўляцца падчас сумесных і адначасовых з замежнымі калегамі рэйдаў. Адпаведныя дамоўленасці дасягнутыя з прыродаахоўнымі ведамствамі Расіі, Літвы і Украіны.

### Па новых правілах

Сёлета 26 чэрвеня пачне дзейнічаць новая рэдакцыя Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. І ўжо наступнай вясной тэрміны забароны будуць для кожнай вобласці свае.

**Кірыл ЧАБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**



● **СЛУЖБА 101**

## Згарэў трактар

**ВІЛЕЙКА. Пасля дзевяці гадзін раніцы трэцяга красавіка паступіла паведамленне аб загаранні трактара на палетку ля вёскі Мікуліна Вілейскага раёна.**

Выратавальнікам патэлефанаваў адзін з двух трактарыстаў, якія там працавалі.

Трактарысты спрабавалі справіцца з агнём пры дапамозе вогнетушыцеля. Аднак не ўдалося – па прыбыцці выратавальнікаў трактар ужо гарэў адкрытым полымем. На выклік прыбылі два падраздзяленні з Вілейскага і Мядзельскага раёнаў.

У выніку пажару выгаралі кабіна і маторны адсек, пашкоджаныя колы трактара.

Як мяркуецца, прычынай пажару стала кароткае замыканне электраправодкі ў маторным адсеку, паведаміў інжынер Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

**Аддзел інфармацыі.**

● **КРЫМІНАЛ**

## Абакралі лецішча мінчаніна

**МЯДЗЕЛ. У міліцыю 5 красавіка звярнуўся жыхар Мінска. Ён расказаў, што злодзей выняў аконную раму і залез у яго лецішча ў вёсцы Болькава.**

Крадзеж адбыўся ў перыяд з 11 лістапада мінулага года па 5 красавіка гэтага.

З лецішча выкралі вопратку, абутак, рыбалоўныя снасці і посуд – усяго на суму амаль 10 мільёнаў рублёў, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

● **ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Матацыклісты, выконвайце правілы

**З прыходам вясны можна пачуць не толькі спевы птушак, але і роў матацыклаў.**

Горад нібы прачынаецца пасля зімовай спячкі і зноў гучна заяўляе пра сябе.

І для супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспекцыі дадаецца нямала працы, бо гаспадары мотатранспарту часта трапляюць у катэгорыю парушальнікаў ПДР. Кіраванне матацыклам, які не прайшоў Дзяржтэхагляд, невыкананне хуткаснага рэжыму, кіраванне транспартам без спецыяльнага шлема – усё гэта толькі частка парушэнняў, з якімі даводзіцца сутыкацца супрацоўнікам ДАІ пры фіксацыі парушэнняў вадзіцеляў мотатранспарту.

Дзяржаўтаінспекцыя Вілейскага РАУС ад 2 па 6 красавіка ладзіла акцыю "Матацыкліст". Падчас рэйдавых мерапрыемстваў інспектары з асаблівай пільнасцю кантралявалі кіроўцаў мотатранспарту: выяўлялі парушэнні, тлумачылі, якімі могуць быць наступствы гэтых парушэнняў. А з добрасумленнымі кіроўцамі, якіх, на шчасце, было больш, чым парушальнікаў, супрацоўнікі ДПС праводзілі прафілактычную размову і прыязна жадалі добрай дарогі.

– Мы заўсёды рады, калі кіроўцы выконваюць ПДР, – кажа інспектар ДПС **Зміцер Смаленскі**, – Узаемапавага на дарогах – гэта залог шчаслівай паездкі. Лепшая працоўная змена – тая, падчас якой не адбылося ДТЗ. А калі яшчэ і парушэнняў правілаў дарожнага руху не было, то і зусім настрой добры.

Але, на жаль, не ўсе кіроўцы мотатранспарту выконваюць ПДР.

– Штогод з надыходам летняга перыяду ўзрастае колькасць ДТЗ з удзелам вадзіцеляў двухколавых механічных транспартных сродкаў, – каментуе начальнік Дзяржаўтаінспекцыі **Аляксей Альфер**. – Сёння на тэрыторыі Мінскай вобласці зарэгістравана 176 ДТЗ, у якіх 36 чалавек загінулі, 202 атрымалі траўмы, 20 ДТЗ адбылося па віне нецвярозых кіроўцаў.

Адзін з асноўных фактараў, які ўплывае на цяжар наступстваў падобных ДТЗ, – невыкарыстанне кіроўцамі і пасажырамі моташлемаў. Таксама аварыі здараюцца з-за кіравання без правоў і ў стане алкагольнага ап'янення. У 95% выпадкаў вадзіцелі кіравалі скутарамі і матацыкламі без правоў. І ахвярамі мотаавараў станавіліся пераважна маладыя людзі.

З пачатку мотасезона-2014 супрацоўнікі Вілейскага аддзела ДАІ зарэгістравалі 49 парушэнняў ПДР. Сярод гэтых парушэнняў 16 звязаныя з кіроўцамі двухколавага транспарту. Спыненыя пяць матацыклістаў, якія не мелі правоў.

**Анастасія ЛЕАНОВІЧ, Вілейка.**

ПРАФЕСІІ

# З цыркам у мару паверыць лёгка

**МАЛАДЗЕЧНА. Цыркавая студыя "Мара" запрашае ўсіх на цыркавую праграму "Фунцік у цырку", якая адбудзецца 16 красавіка ў Доме культуры чыгуначнікаў.**

Тое, што гэта будзе феерычнае шоу, стала зразумела ўжо на рэпетыцыі. Адкрываецца заслона, і на сцэне з'яўляюцца артысты: жанглёры, акрабаты, паветраныя гімнасты. У паветра ляцяць булавы, а дзяўчаты ў бліскучых касцюмах круцяць рознакаляровыя абручы. Гучыць марш... і пачынаецца крык:

– Сямён, не чапай тумбу!

– Аляксей, што ты як нежывы!

– Маша, гавары гучней!

Творчы працэс. Ідзе звычайная рэпетыцыя.

Кіраўнік узорнай цыркавой студыі "Мара" **Святлана Горлава** кажа, што такія вялікія праграмы ставяцца раз на тры гады, адсюль і нервы, адсюль і адказнасць.

– Хаця, здаецца, чаго панікаваць? Цыркавая студыя існуе 27 гадоў, заняткі з артыстамі праводзім штодзённа.

Цыркавую студыю "Мара" заснавала ў 1987 годзе Святлана Горлава разам з мужам. Яны, былыя артысты цырка, акрабаты-вальтыжоры, выйшлі на пенсію не для таго, каб атрымліваць асалоду ад спакою, а каб ужо ў сваёй студыі рыхтаваць і запальваць новыя імёны на цыркавым небасхіле.

Выпускнікі Святланы Горлавай працуюць у Гомельскім цырку, на Тайване, у Маскве.

Сёння ў цыркавой студыі рыхтуюць артыстаў усіх жанраў. "Выключаючы дрэсіроўшчыкоў", – жартуе Святлана.

**– А як вы размяркоўваеце артыстаў, кім ім быць: жанглёрамі ці эквілібрыстамі?**

– Сваім артыстам я даю неабходныя ўменні ва ўсіх жанрах, а потым ужо яны самі выбіраюць свой шлях. Бывае так, што артысту ні ў якую не падабаецца жангліраваць, і як тут прымусіш?

**– У студыі займаюцца дзеці розных узростаў, як атрымоўваецца зацікавіць адначасова ўсіх?**

– З самымі маленькімі артыстамі займаецца мая былая вучаніца **Алена Курэц**. Я займаюся з больш дарослымі дзецьмі. У студыі ёсць артысты, якія ходзяць сюды ўжо каля дзесяці гадоў. Гэта **Ганна Чаплінская** і два браты-акрабаты **Павел і Ілля Драмлюкі**. А зацікаўліваць нікога не трэба. Цырк – гэта магія, прыходзьце і пераканайцеся ў гэтым самі.

**– З якога ўзросту бяруць у артысты цырка?**

– У нашай студыі займаюцца дзеці ад 8 гадоў, бо калі яны меншыя, вельмі цяжка скаардынаваць іх рухі. Цыркавое майстэрства патрабуе поўнага засяроджання, тут расхлябанасць не пройдзе. Увогуле, цыркавое майстэрства вельмі траўманебяспечнае, працуем мы і пад купалам. Але ўсе мае дзеці ў бяспецы. Калі працуюць на трапецыі ці ў коле, артыстаў страхуе лонжа. Выключэнне, нумары на палотнах, там страхоўкі няма, але **Ліза Ліхтаровіч**, наша артыстка, выдатна спраўляецца з паўметровай тканінай.

**– У вашых артыстаў вельмі прыгожыя касцюмы, вы дзе іх набываеце?**

– Усё тое, што ёсць у цырку, справа маіх рук і рук майго мужа. Усё абсталяванне, на якім працуюць артысты, тыя ж трапецыі і кольцы, зрабіў мой муж. А касцюмы шыю сама. Вось чаму вы думаеце, я не на рабоце сёння? Таму што ўзяла дадому тканіну, каб нашым самым маленькім артыстам да прэм'еры паспець сшыць новыя касцюмы.

**Наталля ТУР.**

Фота Наталлі ТУР.

Артыст цырка Павел Драмлюк займаецца ў студыі 8 гадоў. За гэты час быў і акрабатам, і жанглёрам, і вальтыжорам.

**Даведка "РГ". Лонжа** – прыстасаванне, якое страхуе артыстаў цырка падчас выканання небяспечных трукаў.
**Эквілібрыстыка** – жанр цыркавога мастацтва. Здольнасць артыста ўтрымліваць раўнавагу пры няўстойлівым становішчы цела (на дроце, на канаце, на руках, на галаве, на шпульках, на бутэльках, на крэсле, на шарах і інш.)
**Вальтыжор** – паветраны гімнаст, які робіць трукавыя пералёты з трапецыі на трапецыю, у рукі або на плечы партнёра і гэтак далей.

Фота з архіва Віктара ЖУКА.

Пераможца сёлетняга абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года" Віктар Жук у юнацтве сплёў кальчугу.

ЗАХАПЛЕННІ

# Настаўнік гісторыі сплёў кальчугу

**МАЛАДЗЕЧНА. Шмат гадоў таму, калі дзеці не ведалі, што такое айфон, айпад і Джасцін Бібер, настаўнік гісторыі СШ№11 Віктар Жук сплёў кальчугу.**

Рабіў ён яе яшчэ ў юнацтве са зварачнага дроту доўга і ўпарта цягам цэлага года. Потым захапленне гісторыяй перарасло ў прафесію.

Ужо 10 гадоў Віктар займаецца ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй, з'яўляецца ўдзельнікам гістарычнага руху і членам клуба "Тун", які займаецца рэканструкцыяй швейцарскай пяхоты XIV-XV стагоддзяў.

"Сярэднявечны воін" мае свае даспехі, касцюмы і зброю. Штогод ён прымае ўдзел у розных мерапрыемствах міжнароднага фармату, гістарычных фестывалях, пастановачных і масавых бітвах.

У сям'і Віктара Эдуардавіча шмат гісторыкаў: сястра – кандыдат гістарычных навук, этнолаг, а яе муж – доктар асірыялогіі (навука, якая вывучае мовы, пісьменства, культуру і гісторыю Асірыі, Вавілоніі і Месапатаміі).

– Мой лепшы сябар – малодшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук, археолаг **Яўген Уласавец**. Дзякуючы яму я трапіў на раскопкі старажытных гістарычных месцаў, – з захапленнем распавядае настаўнік. – Вы не ўяўляеце, якія пачуцці адольваюць, калі ўласнымі рукамі датыкаешся да гісторыі, знайшоўшы ў зямлі парэшткі нашых продкаў!

Віктар Эдуардавіч – малады педагог, які працуе ў школе толькі два з паловай гады. Але ён не лічыць гэта недахопам, а, наадварот, перавагай:

– Я ведаю, якую музыку слухаюць мае вучні, якія фільмы яны глядзяць, чым яны дыхаюць, інакш кажучы. Як і многія хлапчукі, люблю гуляць у футбол. Трымаю сувязі са сваімі падапечнымі ў сацыяльных сетках. Усё гэта дапамагае мне знайсці агульную мову з вучнямі, у гэтым і ёсць мой прафесійны сакрэт.

Віктар Эдуардавіч лічыць, што сучасны настаўнік павінен быць адданы справе, якой ён займаецца, а яшчэ – камунікабельным, крэатыўным, мабільным, крочыць у нагу з часам. Усе гэтыя рысы характару дапамаглі маладому педагогу стаць надаўна пераможцам абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года", дзе ён паўстаў у вобразе "сярэднявечнага воіна", годна прадставіў свой досвед у творчым этапе, падчас адкрытых урокаў і майстар-класаў.

– Такога выніку дамагчыся не здолеў бы без дапамогі творчай групы настаўнікаў нашай кафедры на чале з намеснікам дырэктара **Галінай Пішчык**, – з удзячнасцю адзначае педагог.

**– Вы ўбачылі штонебудзь новае ў сваіх калегаў, якія ўдзельнічалі ў конкурсе?**

– Безумоўна. Мне давялося ўдзельнічаць з імі ў розных конкурсных мерапрыемствах. Паколькі я прысутнічаў амаль на ўсіх міні-ўроках сваіх калегаў, то запасычыў для сябе шмат новых ідэй і знаходак.

У хуткім часе яны сапраўды спатрэбяцца педагогу. Наперадзе ў яго – фінал рэспубліканскага конкурсу.

**Вікторыя ПАЖЫГАЙЛА, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# Удзельніца хору ветэранаў Зоя Наўрось: **“Наш хор – дружная сям’я”**



Фота Віталя МЯЧЫКА.

Народны хор ветэранаў вайны і працы Вілейскага Палаца культуры.

**ВІЛЕЙКА. Нядаўна 25-годдзе адзначыў народны хор ветэранаў вайны і працы Палаца культуры.**

Каб падрабязней даведацца пра яго гісторыю і сучаснасць, звярнуліся да **Зоі Наўрось**. У хоры яна больш за дваццаць гадоў, была акампаніятарам, кіраўніком.

**– Як у Вілейцы з’явіўся хор ветэранаў?**

– Пачалося ўсё з таго, што ў Вілейку прыехала з Магілёва **Лідзія Пашкоўская**. Яна сказала, што ў Магілёве вельмі добры хор ветэранаў, чаму б і ў Вілейцы такі не арганізаваць. Кіраўніцтва раёна пайшло насустрач. Лідзія хадзіла па арганізацыях, запрашала людзей. Кіраваць хорам стаў **Аляксандр Махнач**.

I вось у 1989 годзе хор ветэранаў пачаў сваё існаванне. Спачатку была жаночая група, потым мужчыны пачалі ўлівацца. Неўзабаве ў хоры было больш за 30 чалавек. Шмат інтэлігенцыі спявала: дактары, педагогі… Апроч хору была жаночая і мужчынская вакальныя групы, квартэты, дуэты. А яшчэ ў нас была акампаніруючая група: на гітарах, балалайках, скрыпках і домры ігралі.

Калі пайшла на пенсію, мяне запрасілі ў хор. Доўгі час была акампаніятарам, пасля смерці Аляксандра Махнача, з 2009, года кіравала хорам.

## Дзе б ні былі – дыпломы везлі

**– I якіх поспехаў хору ўдалося дасягнуць?**

– Праз два гады хору было прысвоенае званне “народны”. I цяпер пацвярджаем яго кожныя тры гады. Калектыў становіўся дыпламантам і лаўрэатам розных фестываляў і конкурсаў, у тым ліку рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці ветэранскіх калектываў “Не старэюць душой ветэраны” ў 1992 годзе. Дзе б ні бывалі – дыплом ці грамату мы атрымлівалі абавязкова. У многіх гарадах выступалі: Мінск, Брэст, Стоўбцы, Узда… Пастаянна ўдзельнічалі ў фестывалі “Пеўчае поле” на возеры Нарач.

**– Якія паездкі запомніліся найбольш?**

– Прыгадваецца канцэрт у сталічным Доме афіцэраў. Там выступалі 32 народныя калектывы з усёй Беларусі, і мы тады занялі першае месца. Уручылі нам дарагі падарунак, граматы – усе былі такія задаволеныя.

Запомнілася паездка на радзіму Махнача – у вёсачку ля Узды. Як нас там сустракала яго мама, малаком свежаньким паіла, як шчыра частавалі ў Доме культуры.

**– Назавіце тых, хто доўгі час у хоры спявае…**

– Гэта **Алена Дубовік, Алена Конанава, Лілія Максімава, Наталля і Усевалад Шкадзінскія, Галіна Капцюг, Вера Сепселева, Ала Хаўстова, Таіса Радзевіч, Леанід Герасімовіч, Браніслава Пагуда, Раіса Кіргет, Людміла Кузьміна. Авенір Капцюг** нават з Забароддзя прыязджае на рэпетыцыі.

У хор прыходзілі людзі рознага ўзросту, нават 80-гадовыя. А час ідзе, 32 чалавекі пашлі ўжо з жыцця. Але хор абнаўляецца, за апошні час – амаль напалову.

## У рэпертуары – больш за сотню песень

**– Сённяшні дзень хору – які ён?**

– Хор не спыняе працу, двойчы на тыдзень збіраемся на рэпетыцыі, ездзім з канцэртамі, абнаўляем рэпертуар. Спяваюць цяпер у нас 32 чалавекі.

Папоўніўся хор добрымі салістамі. Гэта **Мікалай і Зінаіда Дударчыкі, Аляксей Камінскі, Пётр Уласенка, Валерый Карабейка, Эдуард Мікуліч, Алена Лаўрыновіч, Тамара Баслык, Валянціна Місюль.**

**– Колькі ж песень у рэпертуары хору?**

– Больш за сотню. Сярод іх рускія, беларускія, украінскія. Спяваем і песні мясцовых аўтараў.

**– Зоя Стэфанаўна, а якія песні найбольш любімыя ва ўдзельнікаў?**

– “Ты ў маім сэрцы, Вілейка” на музыку Аляксандра Махнача, “Ішлі ў паход партызаны, “Варяг”, “Афіцэры”, папуры з ваенных песень.

**– На ваш погляд, якая асаблівасць вілейскага хору?**

– Напэўна, у тым, што мы патрыятычныя песні спяваем і што песні мясцовых аўтараў выконваем.

**– Чым стаў для вас хор?**

– Гэта мая душа, маё жыццё. Хоць пасля траўмы хаджу з кійком, але не магу пакінуць хор: ірвецца мая душа туды, на рэпетыцыі. Дык вось цяперашні кіраўнік хору **Уладзімір Навуменкаў** прывозіць, адвозіць мяне на рэпетыцыі. Многія былыя ўдзельнікі па стане здароўе не могуць прыйсці, некаторым жа і 90 год набліжаецца, але пра хор яны ўспамінаюць як пра светлае мінулае. Бо гэта ж цікава, мы кожнага віншуем з днём нараджэння, адзначаем святы – словам, жывём адной дружнай сям’ёй. Таму і той, хто пакінуў хор, і той, хто зараз спявае, цэняць праведзеныя тут час і магчымасць паказаць свае таленты гледачам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МУЗЕІ

## На выставе мастачкі з Маладзечна спявалі хоры з царквы і касцёла

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы 4 красавіка адкрылася выстава “Святло душы” Ядвігі Сянько.**

Гэта ўжо 127 персанальная выстава маладзечанскай мастачкі, а выставачнай дзейнасцю яна займаецца з 2003 года.

Мядзяльчане могуць пабачыць 37 спісаў* абразоў, выкананых Ядвігай Сянько. Сярод іх і праваслаўныя, і каталіцкія. Дарэчы, мастачка напісала больш за 1500 абразоў і карцін на хрысціянскую тэму.

А пачала сустрэчу Ядвіга Сянько з прызнання аб мясцовых каранях – так што з поўным правам звярталася да мядзяльчан “землякі”:

– Я не нарадзілася тут, але адсюль родам мой бацька, на мядзельскай зямлі жыве мая цётка, стрыечныя браты і сёстры. Так што, я крышачку ваша.

Расказала мастачка, што гэта выстава пачынала экспанавацца ў Нацыянальным гістарычным музеі ў сталіцы, праехала па гарадах Мінскай і Брэсцкай абласцей. I ўжо на ёй прадстаўленыя дзесяць новых прац, напісаных у гэтым годзе, – яны дэманструюцца ўпершыню.

– Лічу, што чалавек, які не зможа пайсці ў храм – розныя людзі бываюць, – то хай ён пераступіць парог музея, паглядзіць на абразы, – казала Ядвіга Сянько. – I можа, гэта дапаможа яму знайсці сваю дарогу да Бога.

Цікавіла мядзяльчан тое, колькі часу займае напісанне абраза, як можна заказаць твор мастачкі. Распытвалі, якія самы дарагі для творцы абраз.

– Гэта пытанне мне часта задаюць. Не магу адназначна сказаць, які любімы, – адказала мастачка. – Бо любіш кожны, калі працуеш над ім. Гэта як адносіны да дзяцей, напэўна.

На працягу імпрэзы гучалі расказы пра творцу, гісторыю абразоў, а яшчэ – духоўныя спевы ў выкананні хораў з мядзельскіх царквы і касцёла. Спявалі яны не толькі паасобку, але і разам.

Такое адкрыццё выставы Ядвізе Сянько прыйшлося па душы: “Гэта мне як падарунак”, – дзялілася яна на развітанне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка “РГ”. Спіс** у іканапісе – копія з пэўнай ўшанаванай іконы. **Паводле Вікіпедыі.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Маладзечанская мастачка Ядвіга Сянько на адкрыцці выставы ў Мядзеле.

## ● КОНКУРСЫ

# Мы не секта, мы не банда, мы сямейная каманда!

**МЯДЗЕЛ. У мінулую пятніцу ў гарадскім Доме культуры прайшоў раённы конкурс шматдзетных сем'яў.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На конкурсе шматдзетных сем'яў у Мядзеле дзеці і спявалі, і танцавалі.

У Мядзел з розных куткоў раёна прыбылі восем сем'яў. Сярод іх самыя багатыя на дзяцей – Скробуты, мама з татам выхоўваюць сем нашчадкаў.

Адразу ўдзельнікі конкурсу паказалі мультымедыйную прэзентацыю пра сябе, са сцэны расказвалі пра сямейныя традыцыі і поспехі ў выхаванні дзяцей. Рабілі гэта і ў песнях, і ў вершах. Напрыклад, пераконвалі, што "мы не секта, мы не банда, мы сямейная каманда". А гледачы, вядома, перажывалі за ўдзельнікаў, а хто і стараўся ўгадаць: "ці гэта двайняткі на сцэне, ці пагодкі?".

Таксама сем'і прапагандавалі здаровы лад жыцця. У іншай зале можна было ацаніць іх захапленні: тут наладзілі выставу з розных вырабаў, малюнкаў, кулінарных шэдэўраў. І майстар-класы удзельнікі праводзілі.

У выніку першае месца ў конкурсе заняла сям'я Масцяніцаў з вёскі Камарова. Яны прымуць удзел у падобным абласным конкурсе. На другім месцы – Грышкевічы з Княгініна, на трэцім – Янкоўскія, якія прадстаўлялі Нарацкі савет. Не засталіся без падарункаў і іншыя сем'і.

А некаторых яшчэ дадатковыя сюрпрызы чакалі. Павіншавалі **Крысціну Скробут і Наталлю Грышкевіч**, якія ў пачатку красавіка адсвяткавалі дні нараджэнні. А яшчэ сем'і Скробутаў і Грышкевічаў чакалі віншаванні з нагоды юбілеяў іх сямейнага жыцця.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Другакласніца вучыла правілам руху на дарозе

**ВІЛЕЙКА. Юныя інспектары руху змагаліся між сабой у клубе вясёлых і знаходлівых.**

Лепшымі сталі маладзечанцы, у камандзе якіх была другакласніца. Пераможцы прайшлі ў наступны этап і атрымалі адпачынак у "Зубраняці".

У сакавіку ў вілейскай гімназіі "Логас" прайшоў занальны этап Мінскіх абласных гульняў сярод юных інспектараў руху, аматараў КВЗ .

У конкурсе спаборнічалі чатыры каманды: "Горад аднаго руху" (Валожын), "Запасны выхад" (Маладзечна), "Зебра" (Вілейка), "Круты паварот" (Мядзел).

Удзельнікі мусілі не толькі паказаць выдатныя веды па правілах дарожнага руху, але і аформіць гэта ў займальнай і вясёлай форме. Менавіта так дзеці найлепш засвойваюць інфармацыю. Таму і атрымалася яскравае шоу плюс цікавая арыентацыя правілаў руху.

### Другакласніца пакарыла залу

Барацьба за першынство была напружанай. Каманда-пераможца не толькі праходзіла ў наступны этап, але і атрымлівала адпачынак у аздараўленчым летніку "Зубраня".

Цягам чатырох конкурсаў каманды паказвалі сябе годнымі інспектарамі дарожнага руху. Сярод такіх маладых удзельнікаў былі сапраўдныя фанаты сваёй справы. А ў камандзе з Маладзечна "Запасны выхад" сярод удзельнікаў была вучаніца другога класа **Кацярына Беламузава.**

Самая маленькая ўдзельніца разам з камандай не толькі прынесла гораду першынство, але і адразу ж пакарыла гледачоў.

– Я хачу сказаць усім сябрам і сваякам, што вельмі іх люблю і жадаю добрасумленна трымацца правілаў дарожнага руху, – распавяла Кацярына. – Нават дзіцяці зразумела, што ад гэтага часта залежыць жыццё чалавека.

> **Другакласніца Кацярына Беламузава:"І дзіцяці зразумела, што ад выканання правілаў дарожнага руху залежыць жыццё".**

### І насмяшылі, і навучылі правілаў руху

Журы давялося не проста, бо кожная каманда добра падрыхтавалася. Але выбар зрабілі.

Чацвертае месца заняла каманда з Валожына, трэцяе – Мядзела, другое – у вілейскай гімназіі №1 "Логас". Пераможцай стала каманда "Запасны выхад" з Маладзечна.

– Але ніхто не прайграў, – патлумачыў маёр міліцыі, інжынер міжраённага аддзела арганізацыі дарожнага руху ДАІ Мінаблвыканкама **Андрэй Гладкі**. – Каманда з Маладзечна заслужыла першынство, але і астатнія паказалі добрыя вынікі. Асабліва прыемна, што за вострымі жартамі відаць і добрыя веды правілаў дарожнага руху. Удзельнікі не толькі насмяшылі, але і многаму навучылі. А вучыць іншых правілам – асноўная задача юных інспектараў дарожнага руху.

**Анастасія ЛЕАНОВІЧ, Вілейка.**

МУЗЕІ

# Сшытак святара Нікіфара Пыска

**ВІЛЕЙКА. Святар Нікіфар Пыск з Рэчак не толькі пахаваў у 1941-м забітых чырвонаармейцаў, але і захаваў іх імёны нашчадкам. Дакументы захаваліся цудам.**

Расказвае старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава**:

– Вельмі ўнікальны вось гэты сшытак. Ён належаў святару Рэчкаўскай Свята-Духавай царквы. На той час святаром тут быў Нікіфар Пыск.

Я лічу, што гэты святар зрабіў сапраўды гераічны ўчынак. У пачатку вайны было шмат акружэнцаў. Яны прабіваліся ў вёскі, але траплялі ў рукі фашыстаў, і іх забівалі. А святар на сваю рызыку пахаваў гэтых людзей. Ён, вядома, браў іх дакументы, таму што вельмі падрабязна запісаныя звесткі пра іх.

У сшытку змешчаныя запісы аб пахаванні пяці чырвонаармейцаў. Вось яны: **Мікалай Міронаў**, **Рыгор Нікіцін**, **Пётр Пагашоў**, **Іосіф Стацюра**, **Дзмітры Тарасаў**.

У некаторых прыведзеныя даты смерці: жнівень-верасень 1941-га. У сшытку ёсць і падрабязнасці пра чырвонаармейцаў, адкуль родам, калі і якім ваенкаматам прызываліся. Прыведзеныя звесткі і пра родных.

Калі вайна закончылася, то пра гэтых людзей дадому пайшла інфармацыя, што яны зніклі без вестак. А на самой справе яны пахаваныя тут, у вілейскай зямлі.

Калі гэты сшытак трапіў да нас, то інфармацыю перадалі ў Вілейскі райваенкамат і цэнтральны архіў Міністэрства абароны тады яшчэ Савецкага Саюза. Адзін толькі чалавек адгукнуўся – сын аднаго з загінулых.

Асобная гісторыя, як да нас трапіў гэты сшытак. Рэчкаўская царква была зачыненая ў 1957 годзе. Святар, які на той час служыў тут, не ведаў, што будзе далей з царквой. Ён узяў увесь архіў і перанёс на гарышча дома. А ў 1987 годзе дом святара набыў адзін чалавек. Калі палез на гарышча – убачыў вялікую колькасць царкоўнага архіва і перадаў у музей.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Сшытак, які вёў святар Нікіфар Пыск.

**Запісаў Алесь ВЫСОЦКІ.**

УСПАМІНЫ

# Ганна Новік. “З перажытага”

*Заканчэнне. Пачатак у №№13, 14.*

## Жыццё ў турме

Хлеба – 400 грамаў у суткі або супу з гароху, перапоўненага чарвякамі. Літр кавы. Камера была паўночная. У куце ля парога – параша. У турэмную лазню нас вадзілі 1 раз у 2 тыдні.

Праз 2 гады і 8 месяцаў я вярнулася дамоў. Выпусцілі мяне пад заклад паліцыі, і я павінна была з’яўляцца туды і казаць, чым буду займацца, у што апранацца і дзе буду жыць. Праз пару тыдняў я ўладкавалася да краўца ў Балашы. Мы шылі сярмягі, штаны, курткі з саматканага палатна, якое называлася сукном.

Аднойчы прыйшла паліцыя, пагаварылі з гаспадаром, і ён сказаў, што адмаўляе мне ў працы, не хоча мець з паліцыяй сутыкнення. Я вярнулася дамоў, бацька дапамог мне купіць старую швейную машынку, і я пачала шыць.

## Выбралі дэпутатам Народнага Сходу

У 1939 годзе пачалася вайна Польшчы з Германіяй. Палякі ўзмацнілі пошукі падпольшчыкаў і ўсіх арыштоўвалі. Гэта пагражала і мне. Я пакінула сваю хату і, як іншыя, тулялася па суседніх вёсках.

17 верасня 1939 года савецкія войскі перайшлі граніцу і забралі пад сваю апеку Заходнюю Беларусь. Мяне выбралі дэпутатам Народнага Сходу і паслалі ў Беласток. З’езд у Беластоку працаваў тры дні і вынес рашэнне – далучыцца да Савецкай Беларусі, а тым самым – да СССР.

Вярнуўшыся, мы наведалі вілейскую рэдакцыю, дзе і расказалі пра свае ўражанні. Пасля нас прызвалі на працу. Я рашыла адразу арганізаваць гандаль, але праз месяц прыехала група пісьменнікаў з Мінска, знайшлі мяне і даручылі райкаму перавесці ў Куранецкае райана на ролю інспектара, які валодае польскай мовай, бо настаўнікі былі палякі.

## Вайна

22 чэрвеня 1941 года ваенкамат сабраў усіх на плошчы ў Куранцы і аб’явіў аб пачатку вайны з немцамі. Пачалася падрыхтоўка да эвакуацыі. Непакой агарнуў усіх, але асабліва настаўнікаў-яўрэяў. Яны першыя падаліся на ўсход, ніхто не хацеў заставацца пад немцамі. Праз два дні ў Куранцы з’явілася нямецкія разведчыкі. Гэта былі не тыя немцы, якія прыходзілі ў 1914 годзе. Гэтыя былі страшэнна жорсткія і не лічыліся ні з кім. Я ўжо тады была замужам.

…У мяне нарадзілася дачка. Я ўлілася ў партызанскі атрад па дакументах з 1943 года, хаця і раней лічыла сябе партызанкай. Калі памерла дачка, я хадзіла на заданні, рысавала карты Вілейкі, Куранца, Княгініна, давала звесткі аб колькасці немцаў у гарнізонах, аб іх узбраенні, удзельнічала ў партызанскіх налётах на нямецкія гарнізоны.

## Ледзьве засталася жывой

У 1948 годзе ў Варонічах арганізаваўся калгас, і яго старшынёй абралі мяне.

…У 1949 годзе бандыты напалі на старшыню Кузміцкага сельсавета, адабралі ў яго паляўнічую стрэльбу. Старшыню адразу знялі з работы, і сельсавет застаўся без кіраўніка. Старшыня райвыканкама прывёз на сход дэпутатаў свайго кандыдата, але дэпутаты выбралі мяне.

Палова людзей знаходзілася ў зямлянках, і акрамя жанчын, інвалідаў і падлеткаў не было каму працаваць. “Пайшлі” планы лесавывазкі, лесапавалу, і гэтай справай займаліся жанчыны. Памятаю, брыгада жанчын з Іжы пілавала лес у Варонічах і таксама вывозіла яго або да ракі, або на чыгуначны прыпынак.

…У лясах у той час яшчэ блукалі ўзброеныя банды. У 1948 годзе, вяртаючыся з Куранца з нарады, я трапіла ў рукі гэтых бандытаў. Іх было сем чалавек. Мяне павезлі ў лес. Сонца ўжо заходзіла. Я ў думцы ўжо развіталася з жыццём. На шчасце, сярод іх быў мой аднакласнік. Ён назваў мяне сваёй швагеркай. Так я засталася жывой.

У 1950 годзе пачалі арганізоўваць палітаддзелы МТС. Мяне выклікалі ў абкам, накіравалі ў Крывіцкі раён памочнікам начальніка палітаддзела. Тут я адпрацавала чатыры гады.

У 1952 годзе аднойчы летам трапіла зноў у рукі бандытаў, але цудам засталася жывой. Партыйцы ніяк не маглі паверыць, парэзаўшы мне грудзі, што бандыты пакінулі мяне жывой.

## Творчае жыццё

У 1954 годзе ліквідавалі палітаддзелы. Па стану здароўя я вымушаная была звольніцца, паехала дадому ў Варонічы, дзе імкнулася жыць спакойна.

У 1957 годзе мне далі другую групу інваліднасці. Я трапіла увесь свой час на вершы, якія пасылала ў часопіс “Полымя”, дзе іх ахвотна друкавалі. Тады ж было напісанае апавяданне “Карэспандэнт”, якое абмяркоўвалася на сходзе пісьменнікаў і атрымала станоўчую адзнаку.

У 1960 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, выдалі першы зборнік “Мае вёсны”. У гэты зборнік увайшлі вершы пасляваенных год, а таксама даваенныя.

У 1966 годзе здароўе маё палепшылася, і я пайшла на працу ў вілейскую аптэку па рэалізацыі медыкаментаў у Варонічы, дзе быў аптэчны пост. Вось тут і спатрэбілася лацінская мова, якую я вывучала ў 1930 годзе. 12 год я прабыла на гэтай рабоце і ўвесь час не пераставала пісаць у “Полымя”, а потым і ў раённую газету.

Апошнія 20 год я супрацоўнічала з раённай газетай, не маючы права быць штатным карэспандэнтам, таму што была інвалідам другой групы. У 1990 годзе ў мяне здарыўся інсульт, а ў 1993-м – другі. У пачатку 1994 года мне пацвердзілі другую групу, не абяцаючы паправакі. Супрацоўніцтва маё з рэдакцыяй спынілася. Так я сустрэла свае 80-годдзе.

З 1970 года, акрамя вершаў, я пісала аповесць “Другая сустрэча”, якая адлюстроўвае пасляваеннае жыццё на Вілейшчыне. Фрагменты аповесці друкаваліся ў часопісе “Полымя” і ў раённай газеце “Шлях перамогі”. Аповесць яшчэ не закончаная, не ведаю, ці змагу яе скончыць, але хачу спадзявацца.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАЛЯНДАР

**11 красавіка.** 70 гадоў з дня нараджэння Юрыя Церабуна (1944), музыканта і кампазітара, цымбаліста, выкладчыка, фатографа. Жыве ў Маладзечне.

***

**1946 год.** Нарадзіўся Уладзімір Церабун, вядомы беларускі скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, ганаровы грамадзянін Смаргоні. Родам з вёскі Несцяняты, што на Гродзеншчыне. Родны брат Юрыя Церабуна.

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Дзмітрыя Смольча (1919 – 1987), опернага рэжысёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста Украіны, народнага артыста СССР.

***

**1923 год.** У Вільні пачаўся першы з’езд настаўнікаў беларускіх сярэдніх школ Заходняй Беларусі, скліканы Таварыствам беларускай школы. Доўжыўся чатыры дні.

***

**12 красавіка.** Дзень авіяцыі і касманаўтыкі.

***

**14 красавіка.** У вёсцы Максімаўка (1885 год), цяпер Маладзечанскі раён, нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі, грамадска-палітычны дзеяч, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах.

***

**15 красавіка.** 1852 год. Памёр Тадэвуш Тышкевіч, дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

***

**16 красавіка.** 1940 год. Памёр Адам Багдановіч, этнограф, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча. Пахаваны ў Яраслаўлі.

***

**17 красавіка.** 150 гадоў назад (1864) пачала сваю дзейнасць Віленская археаграфічная камісія, якая займалася зборам і выданнем дакументаў па гісторыі Беларусі і Літвы .

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Лідзіі Ржэцкай (1899 – 1977), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

***

**470 гадоў** назад (1544) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца вёска Беніца Маладзечанскага раёна.

***

**445 гадоў** назад (1569) Радашкавічы атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права.

***

**440 гадоў** з часу заснавання (1574) у Вільні друкарні братоў Мамонічаў (дзейнічала да 1623 года).

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

РЭПАРТАЖ

# Івянец. Мястэчка, дзе жывуць ганчары, адкрытыя людзі і сумленныя прадавачкі

**ВАЛОЖЫН. Івянец вядомы сваёй керамікай і цукеркамі "Кароўка", і гэта ні для каго не сакрэт. Нам жа Івянец адкрыўся з зусім іншага боку. Гэта мястэчка з багатай гісторыяй, дзе ў пашане традыцыі і дзе жывуць сапраўдныя творцы.**

Вандроўка па гэтым старажытным мястэчку пачалася з плошчы, дзе працуе невялікая крама, але, як і ва ўсіх правінцыйных крамах, там усё, што можа спатрэбіцца шараговаму пакупніку да стала ці на перакус. Тут і знакамітая івянецкая "Кароўка", якая стала брэндам гэтага мястэчка. Хаця прадавачка набывацъ не параіла, адправіла на фабрыку, сказала, там яны нашмат свяжэйшыя.

## Конь як мядзведзь

Не пашчасціла нам паласавацца візітнымі івянецкімі прысмакамі, вырашылі адабедаць у мясцовай кавярні. Але рана паспадзяваліся.

Абышлі кавярню з усіх бакоў – замкі вісяць свірнавыя. І хоць акно было адчыненае, ламацца ў дзверы не сталі. Так і засталося для нас таямніцай, ці то кавярню зачынілі на абед, бо мы якраз і былі там удзень, ці то зусім яна цяпер не працуе.

– Глядзі, Буян, нас фатаграфуюць, – звяртаецца мясцовы жыхар да свайго каня, убачыўшы нас з фотаапаратамі.

– Конь у мяне і праўда прыгожы, калматы як мядзведзь, – у бок нас кідае дзядзька **Стась**.

Ужо ў размове з ім мы высветлілі, што Станіслаў Янушэвіч пераехаў сюды яшчэ ў 1998 годзе з суседняй Стаўбцоўшчыны. Тады, 15 гадоў таму, у адным канцы Івянца было ажно 56 кароў, не было дзе навязаць каня. Цяпер, па словах івянчаніна, тут каровы няма ніводнай, бур'яном усё зарасло. А сам гаспадар мае козачку.

Сёння ва ўсім мястэчку ўсяго пяць коней. Адзін з іх – той самы прыгажун Буян.

– Ужо больш за 30 гадкоў мае, – пахваліўся дзядзька Стась. – Але ўсё яшчэ буян.

На ім ён раней малако ў садок вазіў. Цяпер малако ў дзіцячы садок прывозяць з Валожына, а конік працуе "па патрэбе".

## Кінаафіша як даведнік мясцовага жыхара

Тут наша ўвага пераключылася на івянчанку на жалезным кані. Яна прыпыніла свой ровар побач з афішай і пачала ўглядацца з задуменным тварам.

Што ж яе туды прыцягнула? Мы пераглянуліся і накіраваліся да дошкі з гучнай назвай, напісанай вялікімі сінімі літарамі, "КІНААФІША".

1. Кіно "Кур'ер з "Раю" будзе 7, 8 красавіка а 20-й гадзіне. Час напісаны быў на паперы чырвоным маркерам ад рукі невядомым кінааматарам. Дарэчы, кошт білета ў кіно – 15 тысяч.

І гэта адзіная афіша, якая тычылася самога кіно.

2. Побач з афішай – аб'ява-таямніца. Бо нехта, не абазначыўшы сябе, запрашаў крэатыўных і творчых жыхароў Івянца праявіць свой унутраны творчы патанцЫВал. Тых, хто спявае ці малюе, арганізатар запрашаў акунуцца ў старасвецкае жыццё.

3. Наступная аб'ява была прывітаннем з Маладзечна. Івянчан запрашалі наведаць 17 красавіка сур'ёзную камедыю "Нязваны госць" у пастаноўцы Мінскага абласнога драмтэатра.

4. Іншая інфармацыя на кінаафішы тычылася прыватных аб'яў: хтосьці прадаваў машыну, хтосьці – камп'ютар, а хтосьці запрашаў на працу – прадавацъ лічбавую тэхніку. Удакладнялася, што ўключаны поўны сацпакет і заробак ад 1 мільёна 660 тысяч рублёў.



Івянчанін Станіслаў Янушэвіч возіць у дзіцячы садок на кані Буяне прадукты і іншыя рэчы "па патрэбе".

Фота Настасі РОЎДЫ.

## Ганчар – дырыжор, які кіруе глінай

У мястэчку працуе завод мастацкай керамікі. І традыцыі ганчарства тут жывуць ад 17 стагоддзя.

Вядома, што не наведаць гэта месца мы не маглі. І з мінулага панядзелка пачалі тэлефанавацъ на завод, каб дамовіцца з яго кіраўніком аб сустрэчы. Але ў панядзелак нам адказалі, што дырэктар у Мінску, у аўторак, што ён паехаў у раён на пасяджэнне, у сераду сказалі, што ён недзе на заводзе, але не ў кабінеце. У чацвер трубку ўвогуле ніхто не зняў. На сваю рызыку мы вырашылі заспець кіраўніка на месцы, але ў кабінеце была толькі сакратарка. Яна выйшла з кабінета, каб пашукаць дырэктара, але вярнулася адна і сказала, што ён зноў некуды ад'ехаў.

Мясцовыя жыхары нам расказалі, што былой славы керамічнага завода ужо няма, дырэктар прыязджае на працу са сталіцы, а здольныя ганчары і керамісты сышлі і працуюць самастойна. Некаторыя ўжо і вучняў сваіх маюць.

У Івянцы сёння працуе сем прыватных майстэрняў, ганчарных і керамічных. Мы пагутарылі з ганчаром **Алегам Капустам**, які больш за 20 гадоў прысвяціў гэтай справе.

– Ганчарства вельмі цікавае і даступнае. Па складанасці яго можна параўнаць з працай дырыжора. Калі ў штосьці не так зраблю, выраб не атрымаецца. Справа мне падабаецца, у ёй няма манатоннасці, шаблоннасці. Са звычайнага кавалка гліны можна зрабіць штосьці прыгожае. Галоўнае – мець вобразнае мысленне. Калі ты сапраўдны майстра – кожны выраб будзе асаблівы. Гліна прыцягвае; чым бы я ні займаўся, заўсёды да яе вяртаюся, – дзеліцца з намі івянецкі майстра.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Калі майстар не ўмее прымацоўваць ручку,ён свае вырабы называе гладышамі. У ганчара Алега Капусты атрымоўваюцца выдатныя збаны з ручкамі.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

**Адсутнасць грамадскага транспарту – не праблема, калі ёсць ровар ці конь.**

Якасць свайго тавару спадар Алег гарантуе. Сам карыстаецца ім у сваёй гаспадарцы і ў любы час можа прадэманстраваць вырабы на справе.

Раней, каб навучыцца ганчарству, давалі паўгода. Сёння з дапамогай майстра можна навучыцца і за месяц. Але зрабіць штосьці атрымаецца і за дзень, вядома, калі ёсць каму назіраць за вашай працай.

Спадар Алег распавёў нам і пра нялросты шлях ператварэння гліны ў мастацкі выраб.

– Раней гліну бралі ў кар'еры. Прычым не зверху, а трэба было выкапаць яміну метры ў два глыбінёй і ўзяць адтуль. Потым яе прыносілі дамоў і разводзілі вадой да стану малака. Гліну абавязкова трэба было ачысціць ад каменьчыкаў і каранёў. Пасля яе вылівалі ў драўляныя калодкі, якія паглыналі лішкі вадкасці. За гэтым гліну валкавалі, гэта значыць, камячылі і рабілі клёцак, з якога можна было ляпіць выраб.

Сёння ўжо падрыхтаваную гліну можна проста набыць. Сам выраб лепіцца хутка. Нават вялікі збан можна зрабіць за 15-20 хвілін. Потым ідзе працэс сушкі, гадзіны дзве ці тры. Затым збан замываюць губкай і раўняюць дно.

Некалькі дзён трэба пачакаць, пакуль выраб цалкам высахне. Інакш ён проста лопне ў печы.

– Аднак калі няма натхнення, то многа не наробіш, – адзначае Алег Капуста. – Я ж займаюся гэтым амаль штодзень, і кожны мой выраб знаходзіць свайго пакупніка.

## Знаёмства з Івянцом працягнецца праз тыдзень

У наступным нумары мы пазнаёмім вас з **Алегам Раманоўскім**, які адрадзіў у Івянцы гліняную цацку, самастойна пераймянаваў школу і 15 гадоў быў дырэктарам музея.

Разам з цяперашняй дырэктаркай музея **Валянцінай Адамовіч** зазірнём у залы музея.

Наведаем мы і самы незвычайны дом у Івянцы, з драўлянымі Кабалванамі. І раскажам вам, чаму гэты дом і ёсць сапраўдны "Пуп зямлі".

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

# Два Церабуны, два творцы, два шляхі, адно дзяцінства

## Падарунак чытачам: 7 тэзісаў з жыцця ад Уладзіміра ў дзень нараджэння

**СМАРГОНЬ. МАЛАДЗЕЧНА. Прозвішча Церабуноў ужо даўно ведае не толькі Смаргоншчына, але і ўся краіна.**

**Юрый** і **Уладзімір**, два браты, два творцы, народжаныя ў адзін дзень, 11 красавіка, з перапынкам у два гады.

З вялікай сям'і, дзе, акрамя бацькоў, было шасцёра дзяцей, сёння засталіся толькі яны, малодшыя.

Музыкант і кампазітар, цымбаліст, выкладчык, фатограф Юры Церабун святкуе юбілей, 70-годдзе. Ён жыве ў Маладзечне.

Яго малодшы брат Уладзімір, скульптар, ганаровы грамадзянін Смаргоні, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, цяпер пераехаў у родны горад, як сказаў сам, на "ранча". Яно дасталася яму ў спадчыну ад аднаго з братоў. Аднак працуе ён у майстэрні ў Мінску.

– Спачатку скончу з кар'ерай, а ужо потым пераеду ў Смаргонь назаўсёды і буду пятрушку вырошчваць, – усміхаецца ён.

Як жа Церабуны сталі тымі, якіх мы ведаем сёння? Якія забавы яны выдумлялі, калі былі хлопчыкамі з хутара пад Смаргонню? Чаму не гулялі ў бляшанкі, і што для іх зрабіў бацька, **Васіль Карнілавіч**, да якога ўсё жыццё дзеці звярталіся на "Вы"?

### Сакрэт і багацце гэтай сям'і

Самую старэйшую і адзіную дачку Васіля Карнілавіча і **Антаніны Антонаўны** звалі **Надзея**, яна была швачкай, жыла ў Маладзечне.

Наступным нарадзіўся **Мікола**. Ён быў повар, але апошнія дзесяцігоддзі працаваў токарам.

– Залатыя рукі меў, – прыгадвае спадар Уладзімір. – Усе мы, пяць братоў, служылі. А ён – далей за ўсіх, на Камчатцы. Колькі слёз тады маці праліла! А пасля яго па ўзросце ішоў **Косця**. Той служыў у Ташкенце, грэўся, аж пераграваўся.

Косця працаваў кіроўцам. Апошнія гадоў 25 быў экскаватаршчыкам. Зарабляў на той час шалёныя грошы – 700, а часам і 900 рублёў. Звычайны заробак тады быў недзе 120 рублёў.

– Аднойчы ездзіў да яго на поле і дзіву даваўся. Ён такога высокага класа майстрам быў, што яшчэ коўш не даходзіў да зямлі, а страла ўжо наверх падымалася. Брат казаў, што ні разу не пашкодзіў кабіну машыны, у якую сыпаў зямлю. Хоць іншы раз грашыў чаркай. Гады два да яго ўсе ездзілі камісіі, глядзелі, як працуе, бо надта ўжо высокі заробак. І кіраўнікі ніяк не маглі зразумець, адкуль чалавек такі заробак мае. Сядзелі, глядзелі і плацілі. Павінны былі плаціць.

Далей ішоў **Міхась**. Ён паехаў служыць у Варонеж і там застаўся на ваеннай службе ветэрынарам. А потым гаспадаркай займаўся.

Потым – Юрась і Уладзімір. Яны служылі ў Беларусі.

– Цяпер на гэтай зямлі засталіся толькі мы з Юрасём. У чым сакрэт і багацце нашай сям'і? Вялікая сям'я – гэта вялікае шчасце і найвялікшае багацце. Яна выхоўвае чалавека.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Беларускі скульптар Уладзімір Церабун сёння.

### Якім было дзяцінства

Вось што распавёў спадар Уладзімір.

У дзяцінстве бацькі надавалі дзецям шмат увагі. Асабліва малодшым, Юру і Вову. Бацька бачыў іх здольнасці да выяўленчага мастацтва, да музыкі і падтрымліваў гэта, як мог.

На пачатку ён дастаў для дзяцей скрыпку. Але ніяк яе не маглі настроіць. Ужо потым высветлілася, што прычына была вельмі простая, нахіліўся адзін калок у сярэдзіне пад дзекай скрыпкі. Ведаць дзеці гэтага не ведалі і цішэнька аддалі скрыпку гаспадару, не прызнаўшыся, што не змаглі настроіць.

Потым Васіль Карнілавіч набыў Юрыю акардэон. А калі дзеці ўжо былі студэнтамі, то прывёз дамоў на санках у саломе нямецкае фартэпіяна, кандэлябры. Калі ён размаўляў з гаспадаром інструмента, той так казаў: "Ведаеш, добры інструмент, як кулаком стукнеш, дык доўга гудзіць!"

– Гэта павінна было значыць, што інструмент выключны, – смяецца Уладзімір Васільевіч. – Радасці была поўная хата. Юра займаўся ў музвучылішчы, умеў іграць. Ды і я быў аматарам.

Але з фартэпіяна атрымалася тая самая гісторыя, што і са скрыпкай: перасохлі калкі і інструмент не трымаў настрой. У камісійны яго здалі, каб хто для мэблі набыў.

– Не было ў нас часу футболіць бляшанкі. Заўсёды знаходзілі нейкі занятак. Фатаграфіяй вельмі цікавіліся. Я займаўся на балалайцы і ў Гродне за ігру на аглядзе атрымаў фотаапарат у падарунак. Першыя здымкі атрымаліся вельмі ўдалымі. Так сталі займацца гэтым, памянялі фотаапарат, пачалі набываць для яго розныя прылады.

Школьнік Вова разам з пяццю сябрамі пайшоў разгружаць вагон з цэментам. Яшчэ доўга цэмент быў і ў носе, і ў роце, але ўсё рабілася не задарма. Атрымалі хлопцы па 120 рублёў – вялікія грошы на той час. Зароблены потам, Вова іх пусціў на фотапавелічальнік, які лічыў вялікай раскошай.

Мастацтвам фатаграфіі Уладзімір займаецца і зараз, а гэта ўжо больш за 50 гадоў. Аднак фотамайстэрства было толькі адным захапленнем хлопцаў. Шмат часу яны аддавалі авіямадэлям.

– Гэта ж было настолькі цікава! Мадэлі былі з матарам, з гумовым рухавіком. За 50 капеек можна было набыць кардонную каробку, у якой былі ўсе дэталі для таго, каб сабраць планёр. Першы раз набылі, сабралі, а ён ляцець не хоча. Аказалася, крылы павінны былі быць напераддзе ў самалёце, а мы пасярэдзіне паставілі. І колькі было радасці, калі планёр урэшце паляцеў.

**Рухавік да парахода дзеці набывалі праз газету "Зорка". Пісалі ліст з просьбай, укладвалі рубель, а потым на пошце рухавік прыходзіў.**

Пасля хлопцы заняліся ракетабудаваннем, сталі запускаць змеяў. Рабілі іх і квадратнымі, і плоскімі, і каляровымі, і з хвастамі. Пускалі са змеяў парашуты.

– І гэта не кажучы пра ансамбль Агінскага, дзе брат на цымбалах іграў, – усклікае спадар Уладзімір. – Заўсёды туды хадзілі, ігралі ў народным аркестры. Потым прыйшоў час электрагітар. Адзін музыка, **Альгерд Апановіч**, сябар майго брата, вельмі добра разбіраўся ў радыётэхніцы і далучыў спецыяльныя элементы да звычайнай гітары, каб гук быў як у электра. О, якая ж была радасць, калі свой Бітлз іграў танцы ў Смаргоні. І першая сола-гітара, гітара-рытм і бас-гітара, і барабаны, нават саксафаніст з Маладзечна прыязджаў. Цуд, ды і толькі!

А якія канькі мы самі рабілі!? Да драўлянага бруска знізу ў канаўку замацоўвалі дрот, канцы загіналі і забівалі ў тарцы бруска. Затым прапякалі гарачым дротам шэсць дзірак – чатыры спераду, па дзве па баках і дзве ззаду (свердлаў у нас не было). Затым заводзілі вяровачкі, зацягвалі калочкам, а вяровачкі ззаду закручвалі вакол валёнка. Гэтым канькам не было ні цаны, ні зносу. А лыжы выстругваў бацька, запарвалі ў гарачай вадзе канцы, затым іх разгіналі, сушылі – каталіся і радаваліся жыццю.

Але былі і неразумныя крокі. Пасля вайны ў лясах вельмі шмат было снарадаў, гранат. Гэтыя снарады мы пачаплялі дротам, цягнулі ў бліжэйшы бліндаж, палілі вогнішча і чакалі, пакуль выбухне. Аж зараз робіцца страшна, калі ўспамінаеш. Бог праявіў да нас літасць.



Фота з сямейнага архіва Церабуноў.

Сям'я Церабуноў (злева направа): Канстанцін, Юры, Надзея, Мікалай, Міхаіл, Уладзімір. У цэнтры сядзіць бацька, Васіль Карнілавіч. 1981 ці 82 год. Смаргонь. У Канстанціна на падворку па Трактарнай, там цяпер жыве Уладзімір Церабун.

### Яны спявалі ўсёй сям'ёй

Так ужо выйшла, што ва ўсіх у сям'і Церабуноў быў голас. І на Вялікдзень, на Каляды заўсёды з іх дома былі чуваць сямейныя спевы.

– Ніхто нікога не вучыў, якую партыю трэба цягнуць, але спевы атрымоўваліся цудоўныя, – дзівіцца сам скульптар. – Гэта было нашым багаццем. Мы спявалі беларуска-ўкраінскія песні, і ў іх была такая глыбіня, што гэта не магло на нас не адбівацца. Гэта было выхаванне прыгажосцю.

Мы ўвесь час шукалі магчымасць праявіць сябе. Гэта аснова ўсяго.

### Бацькі

– Маці была вельмі лагодная, працавітая, добрая душой і сэрцам. Кожны дзень ёй трэба было варыць ежу на 8 чалавек. Тады ж і выбару такога, як цяпер, не было. Нават каб хлеб дастаць, маці з братам ішлі за ім у горад з хутара ў пяць гадзін раніцы. Але неяк хапала выдумкі, каб з нічога смачнае зварыць. На абед бацьку заўсёды быў кавалачак мяса. Нават ужо дарослымі ніхто з нас не меў права ўзяць гэтае мяса, таму што бацька – гаспадар. Ён зарабляе грошы, корміць сям'ю і яму трэба лепшая ежа, – распавядае творца.

Ніхто бацькоў не называў на "ты". Ужо потым мы так звярталіся да маці, а з бацькам на "Вы" былі да апошняга. Ён быў вельмі гаспадарлівы, мудры, клапаціўся пра сям'ю. Але жылі мы ўсё роўна вельмі бедна.

– Што датычыць гарэлкі, то гэта было настолькі ў меру, настолькі святочна, – дадае спадар Уладзімір. – Каб у будні прыйсці і напіцца, то такога ў нашай сям'і ніколі не было. Сям'я была вельмі працавітая. Маці ткала на кроснах тканіну, кручком вязала з каляровых анучак дыванкі. Ніхто бязрукім не быў.



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

## Сэнс жыцця па-церабуноўску

**Сем тэзісаў з жыцця ад Уладзіміра Церабуна.**

**1. Вера ў Бога.** Гэта тое недасягальнае, да якога ўсё жыццё імкнешся. Чым бліжэй наблізішся, тым больш сэнс у тваім жыцці.

**2. Любоў.** Да жыцця, да сям'і. Бо мы нарадзіліся для таго, каб жыць і несці гэтую любоў іншым. Таксама важна і каханне паміж мужчынам і жанчынай. Здаецца, няшчасны той чалавек, які не спазнаў яго.

**3. Нараджэнне дзіцяці.** Гэта сакральнае. Важна ведаць, што такое ручка дзіцяці, якая трымаецца за твой палец, яго першыя крокі, першыя словы. Трэба прайсці праз гэта.

**4. Асалода ад працы.** Трэба атрымліваць асалоду ад любой справы, якой займаешся. Асабліва ад той, якой займаешся большую частку свайго жыцця. Нават калі закладваеш падмурак.

**5. Сяброўства.** Сваякі не заўсёды могуць дапамагаць адзін аднаму па жыцці. Таму важна, каб было каму пазваніць у складаную хвіліну. Часам сяброўства становіцца вышэй за каханне. Гэта самае галоўнае багацце, дадзенае далёка не ўсім.

**6. Інтымныя адносіны.** Бог узнагародзіў людзей біялагічнымі адносінамі. У нас на гэта глядзяць як на штосьці сарамлівае ці, наадварот, – усёдазволенае. Але гармонія ў гэтых адносінах – найвялікшая радасць, пасланая звыш.

**7. Грошы.** Вынік ўсяго вышэйзгаданага. Болей, меней, але галоўнае, каб іх хапала для таго, каб адчуваць сябе чалавекам.

Толькі з гадамі пачынаеш разумець, што ты прыйшоў на зямлю для таго, каб пакінуць менавіта свой след на гэтай зямлі.

МАСАВЫ СПОРТ

# А ўсе бягуць, бягуць, бягуць...

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі вы кожны панядзелак вырашаеце, што пачняце бегаць, але не ведаеце, як гэта лепей зрабіць: раніцай ці вечарам, хутка ці павольна – гэты артыкул для вас.**

Пачнём з таго, што бег – самы танны від спорту. Ён не патрабуе спецыяльна абсталяваных спартыўных пляцовак, не патрабуе дарагой спартыўнай амуніцыі, як, напрыклад, у тым жа хакеі ці фехтаванні.

Каб быць здаровым і спартыўным, дастаткова мець усяго пару красовак, спартыўны касцюм і жаданне займацца спортам. У якасці прабежкі падыдзе любое месца на свежым паветры: паркі і лясныя сцяжынкі, двары ў вашых жылых раёнах, спартыўныя пляцоўкі, школьныя стадыёны.

Засталося заручыцца падтрымкай прафесіяналаў, і – наперад, насустрач ветру.

Доктар-рэаніматолаг **Вольга Кулік** дала свае парады тым, хто толькі пачынае займацца бегам.

1. Бегаць лепш па вечарах за некалькі гадзін да сну. Ён дапамагае хутчэй справіцца са стрэсам і стомленасцю, якія назапасіліся за дзень. Раніцай жа, адразу пасля сну, кідацца ў такую вялікую фізічную нагрузку нельга, гэта вялікі стрэс для вашага арганізма.

2. Аптымальны час для заняткаў бегам з 17.00 да 20.00

3. Паміж прыёмам ежы і бегам павінна прайсці дзве гадзіны. Інакш кажучы, ешце за дзве гадзіны да трэніроўкі ці пасля трэніроўкі засячыце дзве гадзіны і толькі потым накіроўвайцеся да халадзільніка.

4. Перад бегам пажадана зрабіць размінку і пахадзіць у павольным тэмпе 10-15 хвілін. Памятайце, што эфектыўнасць бегу не залежыць ад яго хуткасці. Не спяшайцеся.

5. Пасля трэніроўкі не піце адразу ваду. Дайце арганізму прыйсці ў належны стан.

6. Не лішнім будзе параіцца з вашым доктарам, ці дазволены вам фізічныя нагрузкі. Памятайце вядомы выраз: што занадта, то не на карысць.


Фота Наталлі ТУР.

Трэнер Леанід Арцем'еў са сваёй вучаніцай Аленай Трацьяковай: неператварайце бег у абавязак. Займайцеся ім з задавальненнем.

### Гарадскі стадыён працуе да апошняга кліента

Размова з дырэктарам стадыёна **Аляксеем Язневічам** пачалася з пытання суразмоўцы:

– Як, вы да гэтага не ведаеце, што наш стадыён працуе амаль круглыя суткі? Вартаўнікі адчыняюць вароты а шостай гадзіне раніцы, а зачыняюць толькі тады, калі стадыён пакіне апошні "бягун". Бывае, што апошні чалавек пакідае яго далёка за поўнач.

**– Колькі чалавек бывае на стадыёне штодзённа?**

– Мы вядзём асобны журнал, каб сачыць за колькасцю наведнікаў. Здараецца, што за дзень каля ста чалавек прыходзіць на стадыён, каб паклапаціцца пра сваё здароўе.

**– Што за людзі наведваюць стадыён?**

– Людзі абсалютна розныя, незалежна ад узросту, полу ці фізічнага стану. У нас бегаюць і мамы з дзецьмі, і сапраўдныя спартсмены, і закаханыя пары. Вось адна з такіх пар прыходзіць амаль штодзень на стадыён пасля 11 гадзін вечара.

### Бег – лепшы сродак ад усіх захворванняў

Да парадаў трэнера па лёгкай атлетыцы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы з 36-гадовым стажам **Леаніда Арцем'ева** варта прыслухацца:

– У бегу ёсць галоўная перавага перад іншымі відамі спорту – трэніроўкі на свежым паветры. Нават карысным плаваннем займаюцца ў хлорцы. А калі бегчы пасля навальніцы, проста не можаш надыхацца кіслародам. І тое, што бег лечыць ад захворванняў, не проста словы. Калі бегаеш пастаянна, кроў пульсуе, насычаецца кіслародам, ад гэтага сасуды становяцца эластычнымі, кроў па арганізме пераносіцца хутчэй, ёй нішто не перашкаджае. Ад гэтага і здаровы знешні выгляд, і моцнае сэрца, і цудоўная фізічная форма. Аднак, каб пахудзець, не трэба спадзявацца на адзін бег. Да трэніровак трэба дадаць правільны рэжым сну і харчавання. Бег па гарыстай мясцовасці будзе больш эфектыўны, чым па роўным стадыёне. І не забывайцеся мяняць тэмп бегу, каб бачыць прагрэс у трэніроўках.

**Эфектыўная трэніроўка па бегу выглядае так: размінка, 10-15 хвілін павольнай хады, 10-15 хвілін бегу, і зноў пахадзіць, каб прывесці дыханне ў норму. Трэніроўка павінна доўжыцца не менш за паўгадзіны.**

Спартсменка член Нацыянальнай зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы **Алена Трацьякова**, вучаніца Леаніда Арцем'ева, дала свае парады тым, хто яшчэ вагаецца, выходзіць на беговую дарожку ці не.

– Каб кожны забег быў у радасць, не ўспрымайце гэта як абавязак. Бяжыце ў сваё задавальненне. Бегайце ў тым тэмпе, які падабаецца вам, у той час дня, калі вы гатовыя бегаць. Калі я пачынала займацца спортам, маім кумірам была Дар'я Домрачава. Мне вельмі хацелася бегаць на лыжах, як яна. Але так атрымалася, што бегаю я без лыжаў і ні на кроплю аб гэтым не шкадую.

І яшчэ, у старажытным Алімпе дзве з паловай тысячы гадоў таму назад было напісана: "Калі хочаш быць дужым – бегай, хочаш быць прыгожым – бегай, хочаш быць разумным – бегай". Пачнём з панядзелка?



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08 @mail.ru

НАВІНЫ

### Спаборніцтвы па валейболе пройдуць у суботу

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 12 красавіка, адбудуцца спаборніцтвы па валейболе сярод працоўных калектываў у рамках круглагадовай спартакіяды. Выявяць лепшых мужчынскія каманды.

Пройдуць гульні ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Імпульс". Пачатак намечаны на 10 гадзін.

### Вілейскія міліцыянеры лепшыя ў рэгіёне па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 3 красавіка адбыліся занальныя спаборніцтвы першынства ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама па міні-футболе.

Удзельнічалі ў іх чатыры каманды: Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Валожынскага райаддзелаў унутраных спраў. Гулялі па кругавой сістэме.

У выніку першае месца за міліцыянерамі з Вілейкі: яны атрымалі тры перамогі. Другое месца на рахунку каманды Мядзельскага РАУС. Трэцімі былі маладзечанцы, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў.**

### У валейбол гулялі школьнікі

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 2 красавіка прайшлі раённыя спаборніцтвы па валейболе. Удзельнічалі 15 камандаў з устаноў адукацыі.

Сярод юнакоў першае месца заняла каманда Мядзельскай СШ №1. Паміж дзяўчат не было роўных прадстаўніцам Нарацкай СШ №2.

### Смаргонцы абыгралі "Зорку-БДУ"

**СМАРГОНЬ.** У сталіцы 6 красавіка футбольны клуб "Смаргонь" згуляў з камандай "Зорка-БДУ". Смаргонцы выйгралі з лікам 3:0.

Галы ў іх забілі **Сяргей Кавальчук, Юры Мархель** і **Ігар Нарожнік.**

**Аддзел інфармацыі.**

ФУТБОЛ

## Склад каманды "Маладзечна-2013" – ужо не інтрыга

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка бярэ старт футбольны сезон 2014. Для каманды Маладзечна ён пачнецца ў горадзе Масты.**

Пытанне, якое больш за ўсё хвалюе сёння заўзятараў, – гэта хто ж з футбалістаў будзе адстойваць гонар горада. З ім мы і звярнуліся да дырэктара каманды **Аляксандра Любанца**:



Фота www.fcm.by.

– Трэніроўкі ўжо ва ўсю ідуць. У аўторак на стадыёне ў Чысці адбылася чарговая. У нядзелю каманда "Маладзечна-2013" сыграла таварыскі матч супраць каманды "Забудова". Аднак не ўсе футбалісты змаглі прысутнічаць на матчы.

**– Аляксандр, не трымайце інтрыгу, агучце склад каманды сезона-2014.**

– Здзівіць вас я не змагу, таму што ўсе імёны вам знаёмыя. У складзе каманды ў гэтым годзе **Юры Бугай, Павел Суман, Мікіта Струкаў, Дзяніс Жбанкоў, Ілля Ануфрыеў, Дзмітры Ганчароў, Аляксандр Працкевіч.** Вядзём перамовы **з Андрэем Пуляком, Паўлам Мілеўскім, Сяргеем Тарчылам, Андрэем Шаблінскім.** Канчатковы склад каманды я змагу агучыць у чацвер.

**– З трэнерам дзіцячай спартыўнай школы Аляксандрам Гармазой наконт супрацоўніцтва дамаўляліся?**

– Я гаварыў з Аляксандрам Пятровічам. Ён абяцаў усё ўзважыць, прадумаць і даць мне канчатковы адказ у панядзелак. Яго каманда ўдзельнічае ў абласных спаборніцтвах, таму, я разумею, гульцам будзе цяжка разрывацца на дзве каманды. Але, калі гульні абласнога чэмпіянату не будуць выпадаць на суботу, то ў нядзелю, магчыма, гульцы ДЮСШ змогуць гуляць за "Маладзечна-2013". Нагадаю, што гульні другой лігі праходзяць кожную нядзелю.

Першы матч мы правядзём у гасцях каманды з горада Масты, а маладзечанскіх заўзятараў мы запрашаем на гарадскі стадыён 4 мая. Гуляць будзем супраць каманды з Баранавічаў.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Дзе спалілі тысячы людзей у Красным, садзяць бульбу

Абы не было вайны. Як пабагацеем, пяройдзем з бульбы на гарох і боб, станем трохі больш свядомымі, дык тады абавязкова ушануем і сваіх князёў, і барацьбітоў за вольнасць 1831, 1863, і герояў Мікалаеўскай вайны, і БНР, і нявінных ахвяр, і байцоў АК, якія змагаліся з фашыстамі, і тутэйшых ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Так будзе! Без памяці і помнікаў не будзе будучыні. ***Tutojsh.***

Лепш зробім чэкі ў пойме Ушы ля ўзгоркаў Краснага і засеем рыс. Як пяройдзем з груцы на рыс, то ўжо тады не трэба будзе ўшаноўваць памяць закатаваных. ***Jzik.***

Рэспект Аляксандру Харытону за тое, што не страціў сумлення, і за тое, што не пабаяўся сказаць праўду! Ад Вітаўта да Чарнобыля жылі разам у згодзе на гэтай зямлі. Танцавалі разам і гаравалі, разам вучыліся, спачывалі ў горы, бывала, зрэдку і біліся – але нешта не так зрабілася ў самай інтэрнацыянальнай дзяржаве. Такіх месцаў у Беларусі сотні. У Быстрыцы, дзе фашысты расстралялі яўрэяў, астанкі знайшлі ўвогуле пасля таго, як адкрылі кар'ер. ***Яська.***

У наш час хтосьці на такіх месцах капаецца, каб знайсці нейкія каштоўнасці дзеля ўласнай нажывы, іншыя намагаюцца такія месцы не толькі зруйнаваць, але і наогул сцерці з памяці людзей! Але ж ёсць яшчэ вось такія, як Алесь Харытон, якія смела супрацьстаяць вышэйзгаданым асобам. Дзякуй Вам, Алесь, за знойдзеную і раскрытую праўду ваеннага ліхалецця. А "РГ" дзякуй за тое, што гэту праўду, па меры магчымасці, намагаецца распавесці людзям! Хачу дадаць тое, што сапраўдны маштаб ахвяр і чорныя плямы мінулай вайны па сённяшні дзень пакуль што яшчэ намагаюцца не агалошваць. На вялікі жаль, сённяшняя ўлада не вельмі вітае такія вось ініцыятывы па раскрыцці новых і больш падрабязных злачынстваў фашызму, і не толькі. Чамусьці ўлада больш верыць архіўным дадзеным (пісаным бальшавіцкімі камісіямі), а толькі не сведкам і відавочцам тых трагічных часоў! Улада чамусьці не вельмі хоча прыслухоўвацца да тых людзей, якія на сабе адчулі ўсе жахі вайны і самі прайшлі праз яе пекла. Здароў'я і натхнення Вам, Алесь Харытон! ***Алесь Раткевіч.***



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | | | | 6 | | |
| | 5 | 3 | | | | | | |
| 4 | 7 | | | 6 | 3 | | 9 | |
| | 8 | | 1 | | | 5 | | |
| | | | 8 | | 4 | | | |
| | | 4 | | | 7 | | 8 | |
| | 9 | | 4 | 7 | | | 2 | 8 |
| | | | | | | 4 | 7 | |
| | | 5 | | | | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




Фота Наталі ПР.

**У Маладзечне рыхтуюцца да святаў. Штучныя кветкі і вярбу можна набыць паўсюль. Фота зробленае на вуліцы Віленскай.**

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Анімацыйная камедыя "**Рыа 2**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
11 красавіка – у 16:30
12 красавіка – у 13:00, 15:30
13 красавіка – у 13:00, 18:30
14 красавіка – у 18:30
16, 17 красавіка – у 18:30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Першы мсціўца: Другая вайна**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11 красавіка – у 18:30, 21:00
12 красавіка – у 18:00, 21:00
13 красавіка – у 15:30, 21:00
14 красавіка – у 21:00
15 красавіка – у 18:00, 21:00
16, 17 красавіка – у 21:00
Кошт білета – 55000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Прыгоды містара Пібадзі і Шэрмана**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
13 красавіка – у 11:00
Кошт білета – 30000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*
Фэнтэзі, камедыя "**Кіндарвілейскі прывід**"(Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12, 13 красавіка – у 14:30
Кошт білета –15 000 рублёў.

Камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
11 красавіка – у 17:30, 19:30
12 красавіка – у 16:30, 21:30
13 красавіка – у 16:30
14 красавіка – у 21:30
15 красавіка – у 19:30
16 красавіка – у 21:30
17 красавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, прыгоды "**Лекар: Вучань Авіцэны**" (Германія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
11 красавіка – у 21:30
12 красавіка – у 18:30
13 красавіка – у 18:30, 21:30
15 красавіка – у 21:30
16 красавіка– у 18:30
17 красавіка – у 21:30
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*
ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-ельмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
11 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Шматкі па закавулачках**" (жыццёвая гісторыя), *Р.Осцер*
13 красавіка – у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (11-17 КРАСАВІКА)


**Авен.** Вы можаце разлічваць на шчаслівы выпадак ці паварот да лепшага ў сваім жыцці. Не ўпусціце свой шанец! Будзьце ўважлівыя і выкарыстоўвайце сітуацыю, якая складзецца, сабе на карысць.


**Цялец.** Перад вамі расступіцца заслона тайны. Загадкі і пытанні, якія даўно турбуюць, знойдуць свае адказы і рашэнні. Толькі ўважліва прыглядайцеся да падзей, што адбываюцца, і своечасова на іх рэагуйце.


**Блізняты.** Атрымлівайце асалоду ад жыцця! Спрыяльны час для адпачынку і пачатку новых спраў, нараджэння дзяцей.


**Рак.** Не выпрабоўвайце лёс – усё ідзе, як трэба, і вам не варта нічога рабіць. Сканцэнтруйцеся на праблемах сям'і, а фінансавыя і іншыя пытанні будуць вырашацца практычна без вашага ўдзелу.


**Леў.** Не спяшайцеся, будзьце спакойныя – ваша ад вас не сыдзе, калі вы зробіце акцэнт не на прафесійную сферу, а прысвеціце больш часу вывучэнню новага, роздумам і сям'і. Бо менавіта моцныя "дамашнія тылы" падтрымаюць вас у любых пачынаннях і дадуць стымул да перамог.


**Дзева.** Верце ў сваю шчаслівую зорку, смела крочце наперад, усе вашы планы з бляскам ажыццявяцца.


**Шалі.** Кантралюйце свае эмоцыі і пачуцці, бо яны могуць выйсці за рамкі адносін з партнёрамі ці роднымі.


**Скарпіён.** Пазбягайце непатрэбнай рызыкі, беражыце сябе, і ўплыў негатыўных тэндэнцый не прынясе вам шкоды.


**Стралец.** Ідзіце на ўступкі, калі ў гэтым ёсць патрэба, і настойвайце на сваім у выпадках, калі кампрамісы недапушчальныя. Вас чакаюць прыемныя сюрпрызы, важныя перамогі.


**Казярог.** Перыяд прынясе прыліў жыццёвых сіл, у шмат каго з вас з'явіцца адчуванне, што мора па калена. І менавіта таму вы возьмецеся за справы, якія наогул нікому не па сілах.


**Вадалей.** Вы цяпер не ладзіце з сабой, самакрытыка, часта зусім неканструктыўная, забірае шмат душэўных сіл. Пастарайцеся настроіцца на пазітыўны лад, і жыццё адразу стане гарманічным.


**Рыбы.** У вас адкрываюцца новыя магчымасці і перспектывы, але і пахваляваца прыйдзецца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

**12 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +0 / +8 | | +4 / +8 | | +6 / +12 | | +6 / +9 | |
| | 746 | ↖ 5 | 741 | ↖ 3 | 740 | ↗ 10 | 733 | → 6 |
| Вільня | 0 / +7 | | +2 / +8 | | +5 / +10 | | +3 / +6 | |
| | 753 | ↑ 5 | 748 | ↑ 5 | 747 | → 6 | 743 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.16
Захад 20.09
Даўжыня дня 13.53

Усход 17.05
Захад 5.03
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Вербная нядзеля (13 красавіка) – апошняя нядзеля перад Вялікаднем. На вербным тыдні чакаліся апошнія маразы-вербічы.
- Навальніца ў пачатку красавіка – да цёплага лета і ўраджаю арэхаў.

# Чытайце праз тыдзень:

**За кошт чаго камандзе Мядзела ўдалося перамагчы ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе – чытайце ў наступным нумары.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Гарачая вада замярзае хутчэй за халодную.

* Смак жукоў падобны да смаку яблыкаў, асы – да арэшкаў хвоі, гусеніц – да смажанага бекону.

* У 1000 годзе на Зямлі жыло 400 мільёнаў чалавек. Да 2000 года стала шэсць мільярдаў.

25 красавіка з 11:00 да 13:00 у будынку Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта па адрасе: **вуліца Прытыцкага, 23** будзе весці **ВЫЯЗНЫ ПРЫЁМ** грамадзян, індывідуальных прадпрымальнікаў і прадстаўнікоў юрыдычных асоб **намеснік начальніка УСК па Мінскай вобласці Аляксей Сычоў**. Папярэдні запіс на прыём па тэл. 774421.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы паставіцеся да курсаў беларускай мовы



**Ганна Матошка, вахцёр:**

– Вядома, гэта добра. На мой погляд, кожны беларус павінен ведаць і ўжываць мову, а не трасянку. Калі будуць такія заняткі і вольны час, з вялікім задавальненнем наведаю, бо вельмі цікава, колькі там будзе людзей, і ўвогуле паслухаць чыстую беларускую мову.



**Ларыса Язневіч, выхавальніца:**

– Сапраўды было б класна, калі б з'явілася такая магчымасць. Сама я размаўляю на рускай мове, але калі са мной пачынаюць гутарыць на беларускай, то я з задавальненнем працягваю размову на роднай мове. Калі будзе вольны час, то, вядома, наведаю такое цікавае мерапрыемства.



**Мікіта Трапяшчонак, слесар-рамонтнік:**

– Чаму б і не, калі чалавек не ведае мовы, то хай вывучае і карыстаецца ёй усюды. Я сам добра валодаю мовай.



**Таццяна Васілевіч, педагог:**

– Супраць, адразу кажу, не была б, бо да мовы стаўлюся з вялікай павагай. Будзе добра таму, хто хоча вывучыць. Сама не пайшла б, а кагосьці з дзяцей абавязкова адправіла б.



**Віялета Варановіч, навучэнка політэхнічнага каледжа:**

– Мову вельмі паважаю, але размаўляю, на жаль, у рэдкіх выпадках. Канешне, калі будзе такая магчымасць, то адразу пайду. Цікава пагутарыць з рознымі людзьмі, тым больш на роднай мове.



**Настасся Кароль, навучэнка музкаледжа:**

– Вельмі падабаецца беларуская мова, але карыстаюся ёй рэдка. Калі будзе магчымасць падцягнуць родную мову, то абавязкова пайду. А яшчэ цікава падлічыць, колькі вытрымаю па часе без рускага слова.



**Таццяна Палуян, вучаніца чатырнаццатай школы:**

– Наша мова вельмі прыгожая і мілагучная. Мне былі б вельмі цікавыя такія курсы. Скажу, што адразу наведаю іх, калі яны з'явяцца.

**Падрыхтаваў Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа маладых журналістаў пры рэдакцыі "РГ".**

**Рэгіянальная газета. Rh.by** Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 15 (989) 11.04.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 325. Падпісана ў друк у 10.00 10.04.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.